ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

1 кастрычніка 1993г № 38 (3708) Кошт 10 руб.

## А Ў АСТАТНІМ, ЦУДОЎНАЯ МАРКІЗА...

***Гутарка карэспандэнта «ЛіМа» Міхася ЗАМСКАГА з начальнікам Упраўлення па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, экалагічных праблемах і надзвычайных сітуацыях Саўміна Рэспублікі Беларусь Няфодзіем ГУРЫНОВІЧАМ***

**СТАРОНКІ 5, 12**

## НЕВЫЧЭРПНАЯ СПАДЧЫНА

***Жывое слова Кірылы ТУРАЎСКАГА***

**СТАРОНКА 6**

## КАНТАМІНАЦЫІ

***Адам ГЛОБУС: занатоўкі эгаіста, напісаныя з нагоды чытання Артура ШОПЭНГАЎЭРА***

**СТАРОНКІ 8—9**

## «НАШЫ ЛЮДЗІ САЧЫЛІ ЗА ВАМІ...»

***Віктар ЯРАЦ: «Цэлую восень, да самай зімовай сесіі, праходзілі камсамольскія сходы на факультэтах, дзе нас кляймілі ганьбай, як «буржуазных нацыяналістаў» — гэта за тое, што сціпла хацелі папрасіць яго вялікасць ЦК на адзіным ва ўсёй Беларусі — ледзь не музейным — беларускім аддзяленні вывучаць агульныя прадметы на роднай мове»***

**СТАРОНКА 14**

## «СЯГОННЯ Я НАДОЎГА АД'ЯЖДЖАЮ»

***Невядомае пра Тодара ЛЕБЯДУ***

**СТАРОНКА 16**





Да нядаўняга часу ў Расонскім раёне не было ніводнай дзеючай царквы. Адзіны храм, да якога не дацягнуліся рукі ваяўнічых атэістаў, быў ператвораны ў склад. Мясцовыя жыхары з болем расказвалі, як абразамі тапілі печку ў сельсавеце, а звон, не ведаючы. як яго ўтылізаваць, проста кінулі ў возера Расона. Даводзілася вернікам, каб памаліцца, хадзіць у Невель альбо Полацк.

Але калі захаваўся Бог у душы, дык адродзіцца і храм. Сёлета на Вялікдзень адкрылася адрэстаўраваная Свята-Вазнясенская царква. Вось толькі званы яе па-ранейшаму на дне возера. Настаяцель царквы а. Анатолій звяртаецца з просьбай да арганізацый і ўстаноў, здольных правесці пошук і пад'ём званоў з дна возера, здзейсніць гэтую высакародную справу. Сродкі дзеля гэтага царква мае.

**Віктар СТРАЛКОЎСКІ**

# ВЫЙСЦЕ — НЕЙТРАЛІТЭТ

***На мінулым тыдні, у суботу, у сядзібе БНФ прайшоў апошні, трэці семінар з цыкла «Гісторыя неапалітыкі». Гэтым разам быў ахоплены перыяд ад 1795 года, калі была канчаткова ліквідавана Рэч Паспалітая, а з ёю і беларуская /літоўская/ дзяржаўнасць, па сённяшні дзень.***

У 1772—1795 гадах амаль уся Беларусь /Літва/ аказалася ў межах Расійскай імперыі /Беласточчына стала расійскай пасля Тыльзіцкага міру/. Такім чынам, наша краіна ператварылася з суб'екта ў аб'ект міжнароднай палітыкі, у стратэгічны плацдарм і прадполле Расіі. Беларусь павінна была затрымліваць ворага на подступах да Расіі; на нашай зямлі базіравалася велізарная армія, гатовая ў кожны момант прасунуцца ў Еўропу далей. Беларускае /літоўскае/ сялянства было ператворана ў рэкрутаў, шляхта — у ландскнехтаў імперыі. На беларускіх /літоўскіх/ памешчыкаў былі распаўсюджаны расійскія прывілеі. Расійскі ўрад падтрымліваў пальшчызну, бо бачыў у паляках сваіх натуральных саюзнікаў.

Сітуацыя ў нейкай ступені змянілася ў 1812 годзе, калі на акупаваных тэрыторыях Напалеон узнавіў Вялікае княства Літоўскае і вылучыў у асобную адміністрацыйную адзінку Міншчыну і Магілёўшчыну. Гэта на выпадак палітычнага гандлю з Аляксандрам І, калі той згодзіцца падпісаць мір. Але далей гэтага Напалеон не пайшоў...

Пасля вайны 1812 года ўрад Расіі вырашыў, што хопіць палітычных гульняў, і стаўка рабілася ўжо не на тое, каб улесціць мясцовую магнатэрыю і шляхту, а на адкрытую русіфікацыю. Цікава, што тэрмін «единая неделимая Россия» ўпершыню скарыстаны дзекабрыстамі. У «Русской правде» /Канстытуцыі будучай Расіі/ Пестэль выказваў думку, што трэба заканадаўчым шляхам скасаваць назвы нярускіх народаў. У Расіі — усе рускія. У дзяржаве павінна быць адна мова. Зразумела, руская. Больш-менш сур'ёзна дзекабрысты ставіліся да Польшчы і палякаў. А з Беларуссю пытанне вырашалася проста: усходнюю частку — Расіі, заходнюю — Польшчы. Мяжа прыблізна супадала з той, якую праз сто гадоў Ленін прапанаваў Пілсудскаму.

Стаўленне Еўропы да падзей 1830—1831 і 1863—1864 гадоў вызначалася тым, што Польшча мела аўтаномію, а Літва-Беларусь і Жамойць былі расійскімі ўладаннямі. Польшча ў нейкай ступені была пад абаронай еўрапейскай грамадскай думкі, а тое, што Расія рабіла на нашай зямлі, лічылася ўнутрырасійскай справай.

У часе Першай сусветнай вайны Беларусь /Літва/ была зонай стратэгічнага супрацьстаяння Германіі і Расіі. Немцы, каб аслабіць Расійскую імперыю, на акупаванай тэрыторыі ажыццяўлялі абмежаваную падтрымку нацыянальных рухаў. Але ж у Берасці, падчас падпісання міру, беларускай думкай ні той, ні другі бок не пацікавіўся...

Саветы, як вядома, не прызналі БНР, але ператварылі ў БССР так званую Заходнюю Камуну. Да БССР Масква не ставілася сур'ёзна. Нагадаем, што рэспубліка была абвешчана нават не на з'ездзе Саветаў, як было прынята ў той час, а на бальшавіцкай партыйнай сходцы. БССР то ўразалі, то «ўзбуйнялі», зыходзячы з міжнароднай абстаноўкі. Беларускія /літоўскія/ землі то афіцыйна прызнавалі за Польшчай, то за Жамойцю. Захаваліся тагачасныя пячаткі, накшталт: «Ревком Минской губернии РСФСР», хоць Мінская губерня лічылася афіцыйна тэрыторыяй Беларусі, а Мінск быў яе сталіцай.

У дагаворы, падпісаным пасля савецка-польскай вайны, ёсць словы, што дэлегацыю РСФСР «урад РСФСР упаўнаважыў падпісаць дагавор за сябе і за БССР». Заўважце, не ўрад БССР упаўнаважыў дэлегацыю Расіі прадстаўляць Беларусь, а ўрад РСФСР.

У 1920 годзе наркомам Чычэрыным распрацавана палітычная дактрына, згодна з якой БССР, хоць і знаходзіцца за межамі РСФСР, кіравацца павінна з Масквы /чым не «эканамічны саюз» па Кебічу—Чарнамырдзіну?/. Чычэрын папярэджваў: ніякіх тэрытарыяльных далучэнняў да БССР, бо невядома, куды тая Беларусь павернецца ў зручным выпадку.

Так званыя «ўзбуйненні» БССР у наступныя гады, калі Масква часткова вярнула беларусам беларускае, былі платай за падпісанне ў 1922 годзе Саюзнага дагавора.

Беларуссю /Літвою/ Масква гандлявала і ў міжваенны перыяд, і ў час Другой сусветнай вайны. У 1941 годзе, калі немцы шпарка рухаліся на Маскву, Сталін прапаноўваў Гітлеру новы «Брэсцкі мір», якім Беларусь і шэраг іншых рэгіёнаў СССР далучаліся да Германіі. У 1944 годзе Сталін падараваў пракамуністычнаму Польскаму нацыянальнаму камітэту ў якасці вотчыны беларускі горад Беласток, а потым далучыў да Беластока Польшчу /папярэдне адарваўшы яго ад Беларусі/.

Пасля Другой сусветнай вайны лінія абароны Масквы пасунулася далёка на захад, цяпер яна праходзіла па Польшчы, Усходняй Германіі, Чэхаславакіі, але Беларусь усё роўна засталася плацдармам. На гэты раз — ядзерным.

Такі стан нашай зямлі і сёння. На ёй стаіць саракатысячнае расійскае войска і расійская ядзерная зброя. Па нашай зямлі праходзіць стратэгічны падзел «Еўропа—Расія».

Дык мо хопіць быць заложнікамі імперскіх амбіцый усходняга суседа? Выйсце — незалежнасць і нейтралітэт.

**П.В.**

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Прашу дазволу праз вашу газету шчыра падзякаваць Вярхоўны Савет, Савет Міністраў, Міністэрствы — замежных спраў, культуры, інфармацыі, Федэрацыю прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў, грамадскія арганізацыі, рэдакцыі, бібліятэкі, школы, інстытуты, музеі, сяброў, знаёмых і незнаёмых чытачоў за віншаванні і шчодрыя пажаданні ў васьмідзесяты дзень майго нараджэння і пажадаць усім ім дабра, здароўя і доўгага шчаслівага веку.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ**

*26/IX—93 г.*

Падпіска-94

# «ЛіМ» — МАЯ ГАЗЕТА

## ПІМЕН ПАНЧАНКА, НАРОДНЫ ПАЭТ БЕЛАРУСІ:



— Кожную пятніцу з нецярпеннем чакаю пошту. «ЛіМ» — мая газета, нават давялося двойчы працаваць у ёй — у 1939 годзе і пасля вайны ўжо ў 1945.

Блізкія сяброўскія адносіны звязвалі мяне з былымі рэдактарамі: Віткам, Куляшовым, іншымі. Потым быў час, калі «ЛіМ» не хацелася чытаць, быў ён шэрым, нецікавым. І толькі тады, калі рэдактарам стаў Вярцінскі, тыднёвік сягнуў у вышыню, якую трымае і сёння.

Смелыя публіцыстычныя выступленні, вострыя тэмы, глыбокія артыкулы, добрая літаратура — вось які твар сённяшняга «ЛіМа».

Ёсць і заўвагі. Не падабаўся мне эпіграф — купалаўскае «Людзьмі звацца». Добра, што вы яго знялі. Так, беларускі народ пакрыўджаны, але не трэба вяртацца ў мінулае, дарогі назад няма. Яшчэ мне здаецца, што шмат месца аддае «ЛіМ» усялякім юбілеям. Пісаць трэба пра тых, хто гэтага варты. А то, часам, глядзіш, ну нічога гэты чалавек не зрабіў, а пра яго ў «ЛіМе» напісалі. Гэта ж не даведнік. Не люблю чытаць у «ЛіМе» і вялікіх артыкулаў — гэта ж не часопіс.

Але гэта ўсё не закрэслівае таго, што «ЛіМ» — мая любімая газета.

## АДАМ ПАЛЮХОВІЧ, ПРЭЗІДЭНТ ФІРМЫ «ДАЙНОВА»:



— Я выпісваю і чытаю шмат прэсы. Але толькі «ЛіМ», мабыць, найбольш прынцыпова стаіць на, так бы мовіць, нацыянальных пазіцыях. Прычым ні пры якіх варунках ён іх не здае, трымаецца надзейна і моцна. Падабаецца стыль «ЛіМа»: не голае палітыканства ў меркаваннях самых розных аўтараў, не схаластычны выверт, а ў аснове лімаўскіх выступленняў — грунтоўны падмурак ці то тэарэтычнага плана, ці практычны вопыт тых, хто выказваецца па той ці іншай праблеме. Імпануе ў «ЛіМе» аператыўнае рэагаванне на палітычныя падзеі. Мне найбольш цікавая публіцыстычная частка «ЛіМа», бо мастацкую літаратуру за недастатковасцю часу чытаць не паспяваю. А як «спажывец» публіцыстычнай інфармацыі, хацеў бы немагчымага: каб плошчы, адведзенай ёй у тыднёвіку, паболела.

«ЛіМ», не пабаюся сказаць, класічнае, каштоўнае ўжо само па сабе выданне. Ён мусіць выжыць.

Інтэрв'ю ў нумар

## АНАТОЛЬ БУТЭВІЧ:

# «ПОПЫТ НА БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ РАСЦЕ...»

***З 7 па 13 верасня ў Маскве прайшла VIII Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Прадстаўлена на ёй была і наша дзяржава. Пра тое, як праходзіў гэты, можна сказаць, агляд кнігі, наш карэспандэнт папрасіў расказаць міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатоля БУТЭВІЧА.***

**— Анатоль Іванавіч, яшчэ не так даўно раз у два гады ў Маскве праводзіліся падобныя міжнародныя выстаўкі-кірмашы. Усё рабілася з размахам, запрашаліся сотні гасцей, акрэдытавалася шмат журналістаў. А цяперашняя выстаўка — працяг той пампезнасці ці мерапрыемства больш дзелавое, скіраванае на тое, каб нацыянальная кніга магла пераадольваць дзяржаўныя межы?**

— Як вядома, у разгар станаўлення суверэнітэту дзяржаў, разбурэння старых структур маскоўскі міжнародны кніжны кірмаш быў адменены. Многія сумняваліся, ці адбудзецца і гэты. Як бачым — адбыўся. Канечне, ён быў менш прадстаўнічы, чым мінулыя. Але, можа, у гэтым і здаровы сэнс выстаўкі. Калі раней збіраліся, каб паказаць знешні бок справы /хаця там і заключаліся кантракты, і рабіліся дзелавыя здзелкі/, то гэтая выстаўка, на мой погляд, сабрала толькі зацікаўленых людзей, выпадковых удзельнікаў на ёй амаль не было. Кожны прыязджаў дзеля таго, каб вырашыць нейкія практычныя справы. Ды і арганізацыя работы была іншая, чым колішніх выставак. Тут сабраліся і спецыялісты кніжнага гандлю, і паліграфісты, і выдаўцы. Паміж імі і адбываліся практычныя, дзелавыя перамовы. Сэнс гэтай выстаўкі-кірмашу быў у тым, каб наладзіць кантакты. Мы не рабілі кожны дзень статыстычных зводак, як рабілі раней, колькі заключана кантрактаў, колькі аддадзена правоў ці заключана правоў на выданне тых ці іншых кніг. Не ў гэтай колькасці сёння справа, а каб наладзіць практычны, штодзённы ўзаемаабмен гатовымі тыражамі кніг — гэта задача кніжнага гандлю; каб знайсці магчымасць сумесных выданняў, якія цікавяць і нашага чытача і замежнага, у чым таксама заключаецца задача кнігавыдаўцоў, і, зразумела, каб знайсці паразуменне з паліграфістамі, як выдаваць у гэтых цяжкіх умовах кнігу, даступную па цане. Таму і насіла выстаўка дзелавы характар, таму і была далёкая ад пампезнасці. Многія нават крытыкавалі яе за беднасць, убогасць. Мог бы, пры жаданні, і я гэта сказаць, ды хочацца сказаць усё ж пра іншае. Па-першае, выстаўка дала магчымасць зразумець стан сучаснага кнігавыдання наогул у краінах СНД, у свеце, і, па-другое, суаднесці дзейнасць нашай рэспублікі ў гэтых адносінах.

**— Раскажыце, калі ласка, як была прадстаўлена ў Маскве наша дзяржава.**

— Упершыню мы былі прадстаўлены аб'яднаным стэндам з недзяржаўнымі выдавецтвамі. Праўда, асобныя з іх, як, напрыклад, «Эрыдан», мелі ўласны стэнд, астатнія выступалі разам. У гэтым я бачу добры сімптом таго, што і ў рэспубліцы рана ці позна такая супольная праца па аб'яднанні намаганняў дзяржаўных і недзяржаўных выдавецтваў па выпуску патрэбных людзям кніг дасць больш жаданыя вынікі. І яна мусіць адбывацца больш інтэнсіўна. Ніякіх канфліктных сітуацый у дзейнасці і тых, і другіх структур на стэндзе не было. А цікавасць да беларускай кнігі была праяўлена — я не пабаюся гэтага слова — вялікая. А тое, што недзяржаўныя выдавецтвы прапаноўвалі камерцыйную літаратуру, гэта па-свойму дапамагала прыцягнуць чытача-спажыўца. Было шмат людзей, якія цікавіліся толькі кнігамі дзяржаўных выдавецтваў, гатовы былі закупіць іх. Асабліва — у сферы навукі, камп'ютэрнай кнігі, якія выпускае выдавецтва «Вышэйшая школа». Праявіўся інтарэс і да кніг па гісторыі слоўнікавай, даведачнай літаратуры, літаратуры па дамаводстве, вядзенні хатняй гаспадаркі. Калі ж гаварыць у цэлым, дык мы выглядалі не горш за іншых, а калі праявіць некаторую нясціпласць, дык у некаторых выпадках і лепш. У час выстаўкі працавалі розныя семінары, «круглыя сталы». На іх многія спецыялісты адзначалі і ўзровень беларускай кнігі — змястоўны, мастацкі і паліграфічны, гаварылі пра тое, што мы не здалі пазіцыі ў тэматыцы, а гэта і сапраўды так. Калі ў многіх дзяржаўных выдавецтвах іншых краін усё больш з'яўляецца камерцыйнай літаратуры, то ў нас пакуль захоўваецца разумная прапорцыя. Мы не дапускаем камерцыялізацыі дзяржаўных выдавецтваў. Ёсць сістэма дзяржаўнай падтрымкі, і пакуль яна існуе, мы павінны выдаваць сацыяльна-неабходную літаратуру. У сувязі з гэтым можна пахваліцца вось чым. Калі ў Расіі за мінулы год не выйшла па сутнасці ніводнага выдання кніг Пушкіна, іншых класікаў, то ў нас, напрыклад, сёлета выйшаў цудоўна аформлены, у палепшаным паліграфічным выкананні ў перакладзе на беларускую мову двухтомнік выбраных твораў Пушкіна. Працягваецца выпуск серыі «Скарбы сусветнай літаратуры». Шмат выходзіць перакладной дзіцячай літаратуры.

Гаварылася на выстаўцы і пра тое, як арганізаваць нацыянальны кнігаабмен. На жаль, сёння ў гэтым кірунку амаль усе колішнія структуры бяздзейнічаюць. Мы хочам на новай аснове працягваць кантакты з «Міжнароднай кнігай» — маскоўскай арганізацыяй, якая разумее, што цяпер трэба працаваць на інтарэсы ўсіх колішніх рэспублік СССР, каб дастойна распаўсюджваць кнігу за мяжой. «Міжнародная кніга» мае і адпаведную структуру. Нам жа самім выходзіць на замежжа вельмі складана, ніхто не ведае і нашых партнёрскіх магчымасцяў. Стварыць сваю адпаведную структуру мы таксама пакуль што не можам. А, між тым, нас не можа не турбаваць, што беларуская кніга пачала менш ісці за мяжу. Значыць, не трэба цурацца паслуг «Міжнароднай кнігі» і з яе дапамогай прабівацца ў свет. Але пры гэтым мы, безумоўна, будзем адстойваць сваю матэрыяльную выгаду. Раней, скажу прама, яны нас крыху «абдзіралі», цяпер разлікі павінны весціся адэкватна затратам.

**—З «Міжнароднай кнігай» пэўныя кантакты Беларусь мела і**

*(Працяг на стар. 4)*

Адгалоскі

# ТАК, ХАЙ ЧЫТАЧ І ПАРАЗВАЖАЕ...

У мінулым нумары «ЛіМа» быў змешчаны ліст «маскоўскага беларуса» А. Каўкі пра тое, што ў Маскве ён не змог выпісаць анічога з беларускай перыёдыкі на 1994 год: у падпісным каталогу Расійскай Федэрацыі няма аніводнага выдання Беларусі.

У лісце, досыць эмацыянальным, як і сам Аляксей Канстанцінавіч, даўні лімаўскі чытач і аўтар, згадваўся і «шаноўны загадчык саўмінаўскага аддзела друку», у якога А. Каўка пытаўся праз газету, што рабіць.

Загадчык аддзела друку, радыё і тэлебачання Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Сяргей Паваляеў адгукнуўся на ліст А. Каўкі неадкладна, у дзень выхаду газеты. Ён піша:

*«Апускаючы эмоцыі аўтара, якому хочацца толькі параіць звяртацца да першакрыніц, а не пераказваць матэрыял П. Васілеўскага на маё выступленне ў «Народнай газеце», спыніцца хачу вось на чым.*

*Тое, што беларускія выданні не трапляюць у каталог выданняў СНД, вінаваты не «саўмінаўскія чыноўнікі» і не аддзел друку Саўміна.*

*Яшчэ 4 чэрвеня «Мінская пошта» накіравала ўсім рэдакцыям і выдавецтвам ліст, у якім агавораны ўсе ўмовы ўключэння перыядычных выданняў у каталог СНД. Былі вызначаны і тэрміны падачы заявак. Тыя выданні, якія шчыра дбаюць пра сваіх падпісчыкаў з блізкага замежжа, трапілі ў каталог /калі і не ў асноўны, дык у дадатковы/. Сярод іх — газеты «Звязда», «Голас Радзімы», «Наша слова», «Культура», часопісы «Беларусь», «Нёман», «Полымя», «Работніца і сялянка», «Гаспадыня».*

*Так што не трэба ўсё «валіць з хворай галавы на здаровую». Самі рэдакцыі вінаватыя ў тым, што іх выданні не трапілі ў каталог. Іншая справа, што за ўсе паслугі сёння трэба плаціць. Але гэта і не такія ўжо вялікія грошы /60 тысяч «зайчыкаў» за ўключэнне ў каталог/. Газета «ЛіМ», якая так любіць гнеўна выступаць супраць чыноўнікаў, якія быццам бы не дбаюць пра беларускасць, пашкадавала гэтых грошаў. І гэта пры тым, што толькі за гэты год атрымала ад дзяржавы больш 14 млн. рублёў датацый! Дарэчы, і на першае паўгоддзе 1993 года яна таксама пашкадавала грошай.*

*Няхай цяпер сам чытач і паразважае: на каго і як яму абурацца ці крыўдаваць».*

Прачыталі мы ў рэдакцыі гэты адказ і ў нас, як і ў нашага чытача, таксама ўзнікла пытанне, і нават не адно, а некалькі. А. Каўка пісаў не пра «ЛіМ». Ён выказаў здзіўленне і абурэнне тым, што ў каталогу РФ не знайшоў аніводнага выдання з Беларусі: ні беларуска-, ні рускамоўных. Калі верыць С. Паваляеву, яны ёсць не ў галоўным, а ў дадатковым каталогу. Чаму ж тады на маскоўскай пошце нашаму чытачу не параілі гэты самы дадатковы каталог? І чаму беларускія выданні трапілі не ў галоўны, а ў дадатковы каталог? І дурню зразумела, што гэта аніяк не паспрыяе падпісцы на нашы выданні, што пры такой сітуацыі нашы газеты і часопісы ў краінах так званай СНД выпішуць толькі адзінкі — ці шчаслівчыкі, ці самыя настырныя і дападныя чытачы.

Цяпер наконт таго, што не трэба ўсё валіць з хворай галавы на здаровую. У адказ на ліст «Мінскай пошты» мы зрабілі ўсё, што належыць: напісалі заяўку з паведамленнем усіх неабходных звестак і аднеслі /не паслалі поштаю!/ у прыёмную начальніка МП. І віна наша, магчыма, хіба ў тым, што ў рэдакцыйнай мітульзе не праверылі яшчэ і яшчэ раз, ці ўсё даведзена да канца, ці не здарылася якая-небудзь прыкрая недарэчнасць на той самай пошце альбо ў нашым родненькім выдавецтве «Полымя», якое вядзе ўсе нашы рахункі, аплаты і выплаты.

А цяпер пра тое, што «ЛіМ» нібыта пашкадаваў 60 тысяч «зайчыкаў» за ўключэнне ў каталог, а сам «так любіць гнеўна выступаць супраць чыноўнікаў, якія быццам бы не дбаюць пра беларускасць». Якая між гэтым сувязь ці логіка — розуму не дабраць. Супраць чыноўнікаў, якія не дбаюць пра беларушчыну, «ЛіМ» выступаў /і гнеўна!/ і будзе выступаць, гэта ягоны клопат і абавязак. А вось наконт таго, што пашкадаваў... Ну няўжо сп. Паваляеў не ведае, што, з'яўляючыся бюджэтнай арганізацыяй, прытым без уласнага разліковага рахунку, «ЛіМ» пры ўсім сваім жаданні не можа ні «пашкадаваць», ні «ахвяраваць» ні капейчыны з тых 14 мільёнаў, якімі нас увесь час папракаюць?

І дальбог жа, аніяк не нельга ўстрымацца, каб зноў не запытацца ў загадчыка аддзела друку, радыё і тэлебачання СМ Беларусі: няўжо наш «ЛіМ» датуецца найшчадрэй за ўсе іншыя выданні? Ці не ў дзесяткі разоў большыя сумы датацый на выданне «Советской Белоруссии», скажам, ці «Белорусской нивы», многіх іншых газет і часопісаў? Зазірнуў бы калі сп. Паваляеў у нашы апартаменты ды паглядзеў бы, як мы ў «ЛіМе» раскашуем на гэтыя казачныя 14 мільёнаў датацыі? Калі б не дабрадзейная «Дайнова» ды іншыя фундатары, дык і не ведаем, ці змаглі б мы без зрываў і патрасенняў перайсці ўрэшце на камп'ютэрную тэхналогію, што іншыя выданні зрабілі куды раней за «ЛіМ».

І ўрэшце пра эмоцыі. Яны, вядома, не вельмі дапамагаюць справе. І папрок С. Паваляева ў адрас А. Каўкі слушны — ну эмацыянальны ён, казалі ўжо, чалавек, гарачлівы нават. А сам сп. Паваляеў? Тыя самыя эмоцыі таксама ж выдаюць яго з галавой /са здаровай, вядома; гэта ў нас хворая/. Ды бяда не ў гэтым. Бяда ў тым, што эмоцыі ягоныя нейкія не тыя. Так бы мовіць, не станоўчыя /не канструктыўныя/. Быццам ужо і не эмоцыі, а раздражнёнасць якаясьці, а то і зларадныасць нават.

Вось гэта дзіўна.

**ЛІМАЎЦЫ**

# ЧЫТАЕМ РАЗАМ

Шаноўная рэдакцыя!

Газета ваша — цікавая, змястоўная. Амаль усё, пра што вы пішаце, з'яўляецца для мяне надзённым і важным. Зусім не шкадую, што муж выпісвае «ЛіМ». Чытаем з ім разам. У далейшым ці не прыйдзецца выпісаць 2 экземпляры на сям'ю.

Будзе да вас невялікая просьба. Калі ёсць магчымасць, перадайце, калі ласка, маю шчырую ўдзячнасць паэтэсе Соф'і Шах. У «ЛіМе» за 27 жніўня г. г. быў надрукаваны яе вянок санетаў «Малітва за Беларусь». Гэты твор мог напісаць толькі чалавек з чыстым сэрцам, якое баліць за нашу шматпакутную Беларусь. «Малітву» не шкодзіла б надрукаваць іншым выданням — каб дайшла да сэрца кожнага чалавека, каб чыталі яе і веруючыя і атэісты.

Бо калі мы самі не можам як след любіць сваю зямлю, то, можа, Бог укладзе гэта ў нашы сэрцы.

**Алена ДЗЯДОВА,**
**эканаміст**

*г. Навагрудак*

Пятро ПРЫХОДЗЬКА

# Я ПРАЖЫЎ НІБЫ ЖЫЦЦЁ ДРУГОЕ...

## ЛІСТ ГАЛІНЕ КАРЖАНЕЎСКАЙ

**Прыгадаўся — хай**
**не будзе дзівам —**
**Ваш артыкул мне ў газеце «ЛіМ».**
**«Нельга пра вайну пісаць**
**з наівам», —**
**Раілі франтавікам Вы ўсім.**

**Я пад крытыку таксама трапіў**
**І сябе пакрыўджаным лічыў.**
**Але Вы сказалі вельмі трапна —**
**Ува ўсіх тады ў нас быў наіў.**

**Я пражыў нібы жыццё другое,**
**Але штось душу маю пячэ:**
**Я пра самае мне дарагое**
**Сотай долі не сказаў яшчэ.**

**Шмат пісаў я пра свае паходы**
**Як звычайны радавы салдат.**
**Сам не ведаю, з якой нагоды**
**Думкай з Вамі падзяліцца рад.**

**Як паэты рознымі былі мы**
**І тады, ў застойныя часы.**
**Ды адны ўпрыгожвалі кілімы**
**Для жыццёвай паказной красы.**

**Іншыя не гналіся за славай**
**І ў сталы пісалі той парой.**
**Але кожны мог быць пад аблавай,**
**Як няшчасны быкаўскі герой...**

**Крытыкі, углядзеўшыся ў далі,**
**Аўтараў хапалі за грудкі —**
**Тых, хто сельскі люд і гарадскі**
**Толькі «чорнай фарбай фарбавалі».**

**Так было з адною шостай свету:**
**Свет не мог імперыяў трываць.**
**Іншыя ўвабраўшы самацветы,**
**Маладая ў рост пайшла трава.**

**Разарваных да асновы ніцяў**
**У адзін больш не зматаць клубок.**
**Голас вольных чалавечых жыццяў**
**Раздаецца зблізку і здалёк.**

**Не ўмясціць Айчыны наваколле**
**Ў межы непадзельныя наноў.**
**І не трэба мо ў чырвоны колер**
**Маляваць усю прастору зноў.**

**Век для розных войнаў і ахвяр быў**
**Нас гатовы ўсіх на скон аддаць.**
**Дзе ж узяць цяпер такія фарбы,**
**Каб жыццё праўдзівей маляваць?**

**Можа б, цвету зор па волі Божай**
**Змог пазычыць нам «нябесны рай»?**
**У які ж тады мы колер зможам**
**Фарбаваць на карце родны край?**

**Мо патрэбны фарбы нам такія,**
**Што ў прыродзе дрэў усіх парод?**
**І сказаць змагу ўжо на вякі я**
**Тое ўсё, што думае народ —**

**І пра тых, хто мучыўся ў спадмане,**
**І пра тых, хто ўсё жыццё хлусіў...**
**Выбачайце, дарагая пані, —**
**Можа, гэта той жа ўсё наіў...**

**Можа, ўжо аслабла сіла волі,**
**Можа, ўжо агеньчык мой пагас?**
**Як бы ні было — маўчаць ніколі**
**Не магу і ў самы цяжкі час...**

**Жыць хачу з нябёсамі я ў згодзе,**
**Каб давалі больш цяпла палям.**
**А якім жа фарбам быць у модзе —**
**Хай адкажуць сотні белых плям!**

# ЗАМЕСТ АДКАЗУ

Не памятаю, каб бацька мяне выхоўваў малую, а вось сталай у апошні год свайго жыцця ён даў-такі адзін запамінальны ўрок. Быў Дзень Перамогі, мы гасцявалі ў сваіх і пад вечар сабраліся ад'язджаць. «Пачакайце, — кажа бацька, не адрываючыся ад экрана, — зараз хвіліна маўчання». Я прамовіла штось невыразнае, па сутнасці адмахнулася, і тут ён стрымана, але з відавочнай крыўдай напомніў: «У мяне ж брат Міша не вярнуўся з вайны. Твой дзядзька».

Такая ж крыўда — прытоеная, але без злосці — бачыцца мне і ў вершы Пятра Фёдаравіча Прыходзькі. Разумею, што некаторымі залішне прасталінейнымі выказваннямі ў «ЛіМе» я сапраўды давала падставу для нязгоды і крыўд з боку ўдзельнікаў вайны. Шануючы іх сівізну, усё ж прызнаюся, што франтавы лёс іхняга пакалення падаецца мне больш фактам біяграфіі і адзнакай часу, чымся праявай асабістай мужнасці. Існавала /і зараз існуе/ вайсковая павіннасць, была ўсеагульная мабілізацыя, кожны ваяваў як мог, ну, а гора ўсе ў нас хапанулі — і хто на фронт трапіў, і хто пад акупацыяй апынуўся.

Не буду ўтойваць: ні цырымоніі ўскладання вянкоў да помнікаў, ні салюты, ні «вечныя агні» ніколі глыбока не кранalі маіх душэўных струн. Мо часавая аддаленасць таму віной? А можа ўся справа ў тым, што я адчувальная **да формы**? Закаснеласць, завучанасць «пераможных» рытуалаў здольна забіць жывое пачуццё ў кожнага, хто не зведаў на сваёй скуры цяжару фашысцкай навалы. Хіба можна і дваццаць, і трыццаць, і сорак год пасля вайны казаць адно і тое ж аднолькавымі словамі? Хіба не старэюць ветэраны, не растуць унукі, хіба аддаленасць ад падзеі не павінна мяняць ракурсу бачання? На новыя савецкія рытуалы і абрады працавалі цэлыя інстытуты, між тым нішто не абнаўлялася, і чуць, бачыць адно і тое проста надакучвала. Сродкі масавай інфармацыі нязменна эксплуатавалі толькі гераічны бок вайны, нават колькасць ахвяр падавалася як нейкая заслуга. Адвеяныя ад целаў душы тых, што загінулі /калі дадзена ім вяртацца на зямлю/, думаю, нас не зразумелі б. Гэта ж толькі ў апошнія гады мы пачалі іх **памінаць**, — калі царква выйшла з падполля і нарэшце ўспомніла пра свой непасрэдны абавязак.

Вайну зрабілі разменнай манетай палітыкі, ідэалагічнай зброяй, сродкам мілітарысцкага выхавання моладзі. Так, іменна мілітарысцкага, бо, навырабляўшы новай зброі на тысячу гадоў наперад, вучылі дзяцей ледзь не з першага класа гуляць у «Зарніцу». А яшчэ на бяспройгрышнай тэме вайны бязбедна існавала цэлая армія псеўдагісторыкаў, палітрукоў, лектараў, журналістаў, прафесійных «успамінальшчыкаў» і ім падобных. Самі ж франтавікі па-ранейшаму цягнулі лямку і, здаецца, не ўсведамлялі, што іх проста выкарыстоўвае ў сваіх мэтах савецкая прапаганда. Сёння многія з іх зацята трымаюцца старых поглядаў, баючыся зірнуць праўдзе ў вочы. Кажучы словамі паэта-франтавіка Я. Смелякова, «В сознании, как в ящике, подряд Чугунные метафоры лежат». Вось чаму мяне кранулі шчырыя прызнанні Пятра Прыходзькі, які /хай ён даруе за напамін/ раней ці не больш за іншых літаратараў грашыў ваенна-патрыятычнай рыторыкай. Зараз паэт усведамляе:

**Не ўмясціць Айчыны наваколле**
**Ў межы непадзельныя наноў.**
**І не трэба мо ў чырвоны колер**
**Маляваць усю прастору зноў.**

Пераацэнка каштоўнасцяў — працэс пакутлівы і няпросты. З-пад чыгуннай абалонкі праглядвае адкрыты чалавечы твар. Яму ўжо ніхто не прадпісвае быць праставата-радасным і непахісна ўпэўненым у «праваце справы». «И ты услышишь в парке над Москвой Чугунный голос, нежный голос мой»...

**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ**

# «ПОПЫТ НА БЕЛАРУСКУЮ КНІГУ РАСЦЕ...»

*(Пачатак на стар. 3)*

**раней. Але ж, мабыць, у час выстаўкі-кірмашу былі наладжаны і сувязі з фірмамі, якія раней на беларускую кнігу і не выходзілі?**

— Сустракаліся мы з прадстаўнікамі маскоўскага аддзялення англійскай фірмы «Коллетс», якая займаецца экспартам і імпартам кніжнай прадукцыі і кнігавыданнем. Ёсць і першы вынік гэтага кантакту. У кастрычніку ў Франкфурце-на-Майне будзе праходзіць чарговая міжнародная кніжная выстаўка, і фірма згадзілася ўключыць у каталог некалькі соцень прапанаваных намі кніг. Прытым будзе зроблена гэта бясплатна. У далейшым, пры складанні каталогаў, будуць рэгулярна пазначацца беларускія кнігі, якія можна набыць за мяжой. Акрамя таго, прадстаўнікі фірмы паабяцалі прыехаць да нас, у Беларусь, каб практычна дамовіцца, як лепей закупляць нашы кнігі і як арганізаваць дастаўку беларускіх перыядычных выданняў за мяжу. Апошняе асабліва важна, бо, будзем справядлівыя, апошнім часам наша прэса за мяжу амаль не ідзе, і пасрэднікі тут нам вельмі патрэбны.

На асобныя кантакты непасрэдна выходзілі і дырэктары нашых выдавецтваў, паліграфісты. Заключаліся сумесныя пагадненні на выданне пэўных кніг, на ўступку аўтарскіх правоў. Асобныя з гэтых кантактаў будуць прадоўжаны ў Франкфурце-на-Майне, куды, у прыватнасці, паедуць дырэктар выдавецтва «Юнацтва» В. Лукша, дырэктар выдавецтва «Вышэйшая школа» А. Ждан, дырэктар «Белкнігі» А. Гурыновіч. І недзяржаўныя выдавецтвы таксама мелі плённыя кантакты. Цікавасць да беларускай кнігі існуе, яна прызнаецца ва ўсім свеце як адна з кніг, што можа з годнасцю канкурыраваць як па тэматыцы, так і па змесце, паліграфічным выкананні...

**— Анатоль Іванавіч, выстаўка-кірмаш выявіла, пэўна, і слабыя бакі з выданнем беларускай кнігі?**

— Канечне, мы зразумелі і свае прабелы, калі паглядзелі выданні іншых краін. Па-ранейшаму застаецца праблема /не толькі ў нас, а і ва ўсім свеце/ з дзіцячай кнігай — і па колькасці выданняў, і па іх якасці, і па тэматыцы. Не адпавядае патрабаванням гэтага і аб'ём навуковай кнігі, хоць асобныя поспехі тут ёсць. Выданні па камп'ютэрнай тэхніцы таго ж выдавецтва «Вышэйшая школа» маюць шырокае прызнанне за мяжой.

**— Палепшыць справы з выпускам кнігі можна толькі сумеснымі намаганнямі, у тым ліку, калі дзейнічаць разам і з выдаўцамі, кнігагандлёвымі работнікамі іншых краін?**

— Пра некаторыя канкрэтныя акцыі ў гэтым кірунку мы дамаўляліся з прадстаўнікамі міністэрства інфармацыі Расіі. Я, у прыватнасці, унёс прапанову, якую сустрэлі прыхільна, стварыць нейкае акцыянернае таварыства, якое было б зацікаўлена ў кнігаабмене і з былымі саюзнымі рэспублікамі, і з далёкім замежжам. Прапанаваў я пачаць праводзіць у нас, у Беларусі, міжнародныя выстаўкі дзіцячай кнігі. Сёння, наколькі я ведаю, ва ўсім свеце ёсць толькі дзве такія выстаўкі, што рэгулярна праводзяцца ў Каіры і Балоні. Прадстаўнікі Расіі падтрымалі мяне. Зараз мы вывучаем пытанне, каб ужо ў будучым годзе правесці такую выстаўку ў Мінску. Калі яна ўдасца, зробім яе традыцыйнай. Як бачна, ад пампезнасці ў правядзенні выстаўкі-кірмашу ў Маскве адышлі. Ну, а пра практычныя вынікі можна будзе падрабязна сказаць з цягам часу. Спадзяюся ўбачыць іх.

**— Застаецца пажадаць усім вам — і выдаўцам, і работнікам кніжнага гандлю, іншых структур, якія займаюцца распаўсюджваннем кнігі, — поспеху!**

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# ВЫПРАЎЛЕННЕ ПАМЫЛКІ

По недаглядзе рэдакцыі ў нататцы «Паграджальныя сімптомы» /«ЛіМ» за 24 верасня г.г./ дапушчана памылка ў подпісе. Правільна будзе: М. Грынцэвіч, намеснік старшыні нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі.

# А Ў АСТАТНІМ, ЦУДОЎНАЯ МАРКІЗА...

КАРЭСПАНДЭНТ «ЛІМА» ГУТАРЫЦЬ З НАЧАЛЬНІКАМ УПРАЎЛЕННЯ ПА ЛІКВІДАЦЫІ НАСТУПСТВАЎ КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС, ЭКАЛАГІЧНЫХ ПРАБЛЕМАХ І НАДЗВЫЧАЙНЫХ СІТУАЦЫЯХ САЎМІНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Н. А. ГУРЫНОВІЧАМ.

**— Ваша ўпраўленне, Няфодзій Адамавіч, працуе адразу па стольkіх напрамках, што міжволі прыгадваецца лозунг, які вісеў у кабінеце персанажа адной з п'ес Яўгенія Пятрова: «Больше внимания разным вопросам»...**

— Апошнім часам нам даручана таксама займацца яшчэ і пытаннямі аховы здароўя і фармакапіі. Але гэта, вядома, не азначае, што мы падмяняем той жа «Дзяржкамчарнобыль» пры Саўміне, ці Дзяржкамітэт па экалогіі, ці, нарэшце, Міністэрства аховы здароўя. Наша задача — распрацоўваць нарматыўныя акты па гэтых праблемах, кантраляваць, як ажыццяўляюцца ва ўсіх гэтых галінах рашэнні ўрада рэспублікі.

**— Набалелая рана — Чарнобыль. Але, мне здаецца, адбылося тое, што звычайна адбываецца ў жыцці амаль кожнага чалавека — з цягам часу прытупляецца вастрыня перажытага гора. Вось і з чарнобыльскай бядой мы неяк паступова звыкліся, усё часцей абыякава прапускаем міма вушэй паведамленні з пацярпелых ад радыяцыі раёнаў. А там жа працягваюць жыць тысячы людзей, у тым ліку і дзеці. Што чакае іх у будучым, як гаворыцца, аднаму богу вядома.**

— Калі вас паслухаць, дык можа скласціся ўражанне, што ў забруджаных радыяцыяй раёнах рэспублікі амаль нічога не зроблена ў справе ліквідацыі наступстваў аварыі, наладжвання там нармальнага жыцця. Між тым, там у гэтым плане зроблена і робіцца вельмі многа. У 1986—1987 гадах з 30-кіламетровай найбольш пацярпелай ад аварыі зоны ў самыя кароткія тэрміны было адселена ў бяспечныя месцы 25 тысяч чалавек. Для гэтай мэты было пабудавана больш як 10 тысяч дамоў з усімі камунальнымі выгодамі.

**— Шмат пісалася ў рэспубліканскім друку, у тым ліку не абмінула гэтага пытання і наша газета, што ў некаторых новых пасёлках жыць таксама небяспечна з-за радыенукліднага забруджання тэрыторыі, хай яно і меншае, чым у адселенай зоне, але ўсё роўна мае месца.**

— Так, сапраўды, пры выбары ўчасткаў пад будаўніцтва такіх пасёлкаў былі дапушчаны пэўныя пралікі.

**— Чым яны былі выкліканы?**

— У першую чаргу, відаць, недасканаласцю тагачаснай радыеметрычнай апаратуры, якой вымяралі ўзровень радыеактыўнага забруджвання. Прыборы былі маральна састарэлыя і аб'ектыўнай карціны не паказвалі. Але неўзабаве была створана экспертная група, якая правяла дадатковую праверку ўсіх плошчаў, адведзеных пад будаўніцтва, і сёння людзі там жывуць у больш-менш бяспечных умовах.

**— Што азначае: «больш-менш»?**

— Справа ў тым, што на пачатку чарнобыльскай эпапеі ўзровень радыеактыўнага забруджвання ў 1—5 кюры не лічыўся небяспечным для пражывання чалавека. І толькі набыты вопыт у галіне радыеактыўнай бяспекі падказаў, што і пры такім узроўні забруджвання трэба праводзіць перыядычна дазіметрычны кантроль. Пра што сведчаць яго вынікі? Пры ўмове спажывання чыстых прадуктаў небяспекі здароўю можна пазбегнуць.

**— Лёгка сказаць — чыстыя прадукты. Дзе іх узяць?**

— Прадукты, якія трапляюць да спажыўцоў праз гандлёвую сетку, — чыстыя. Гэта гарантавана трайным кантролем, які яны праходзяць. Мяса, напрыклад, праходзіць кантроль перадзабойны, потым па выхадзе з мясакамбіната і, нарэшце, пры паступленні ў гандлёвую сетку. Якасць малака кантралюецца на малаказаводах і перад адпраўкай у магазіны.

**— Вы, Няфодзій Адамавіч, намалявалі амаль ідэальную карціну. Летась я займаўся праблемай радыенукліднага забруджання малочнай прадукцыі ў Мінску, дзеля чаго пабыў на некаторых сталічных малаказаводах, знаёміўся з работай іх лабараторый, якія правяраюць малако, дастаўленае з прыгарадных калгасаў і саўгасаў. Паглядзеў на ўсё гэта, і засумаваў: усё дазіметрычнае абсталяванне ў тых лабараторыях дапатопнае і ў стане зафіксаваць толькі наяўнасць у прадукце цэзію, на большасць іншых радыенуклідаў тыя прыборы не рэагуюць. Самі лабаранткі гаварылі мне, што аніяк не могуць гарантаваць паступленне ў гандлёвую сетку не забруджанай радыенуклідамі прадукцыі.**

**Але гэта, нагадаю, у Мінску. Будзем спадзявацца, што дзе-небудзь у Нараўлянскім ці Чачэрскім раёнах на Гомельшчыне такі кантроль наладжаны лепей. Але і вы, і я мелі пры гэтым на ўвазе гандлёвую сетку. Вяскоўцы ж прывыклі ўсё жыццё карыстацца сваім малаком і мясам, вырашчанымі ў сваім агародзе бульбай, гуркамі, буракамі, морквай і г. д. Вы верыце ў тое, што гаспадыня, падаіўшы карову, пабяжыць у райцэнтр правяраць яго? Ці мяса той жа авечкі, калі гаспадары вырашылі яе не весці на мясакамбінат, а з'есці сваёй сям'ёй?**

— Я вам зараз назаву лічбы, каб вы ўпэўніліся, што і прадукты з асабістай падсобнай гаспадаркі тут чыстыя. Калі ў першы год пасля аварыі ў пацярпелых раёнах у асабістых гаспадарках было забруджана радыенуклідамі да 30 працэнтаў малака і 15 — мяса, дык цяпер гэтыя паказчыкі не перавышаюць 0,01—0,1 працэнта.

**— Цуд! І як удалося гэтага дамагчыся?**

— Па-першае, стварэннем культурнай пашы, у выніку чаго сяляне перасталі пасвіць жывёлу ў лясах, дзе ўсё яшчэ высокі ўзровень радыяцыі, у нейкай ступені пераспецыялізавалі прыватную жывёлагадоўлю.

**— У сваім хляве можна праводзіць нейкую пераспецыялізацыю?**

— А чаму ж не? Мясцовымі ўладамі было рэкамендавана сялянам не разводзіць авечак, бо яны больш за іншую жывёлу «набіраюць» радыенуклідаў.

**— І сяляне паслухаліся?**

— Вядома. Хто сабе вораг? Калі чалавек ведае, што выгадаваную авечку ён не зможа прадаць ці здаць на мясакамбінат, што рызыкуе сваім здароўем, калі вырашыць пакінуць яе на мяса сабе, дык чаго яму тых авечак трымаць?

**— Усё роўна, Няфодзій Адамавіч, сумна ўсё гэта слухаць — людзі жывуць, як на вулкане, не будучы ўпэўненымі ў заўтрашнім дні. Можна есці — нельга есці, правяраць — не правяраць... Чым наша Беларусь угнявіла нябёсы, але не шэнціць ёй апошнія гады. Чарнобыль даўся ў знакі. Летась — пажары, якія знішчылі тысячы гектараў лясоў, тарфянікаў, пасеваў...**

— У Асіповіцкім раёне літаральна за 20 мінут тады поўнасцю выгарала адна з вёсак. І каб мы, штаб грамадзянскай абароны рэспублікі, не падключылі да тушэння пажараў воінскія падраздзяленні, іншыя сілы — страт было б яшчэ больш.

**— Наша бяда — мы дрэнна вучымся на ўласных памылках. Здаецца, мінулагоднія пажары, якія выявілі нядольнасць нашай проціпажарнай службы хутка рэагаваць на небяспеку, павінны былі сёлета прымусіць яе як след адмабілізавацца. Але ж пажары ў рэспубліцы ў маі зноў ахапілі значную частку раёнаў.**

— Вы перабольшваеце — было зафіксавана ўсяго некалькі ўзгаранняў на Гомельшчыне, якія хутка лакалізавалі. Зараз у распараджэнні лясніцтваў неблагая тэхніка, ёсць нават верталёты — 18 адзінак, якія баражыравалі паветра, аператыўна фіксуючы кожны выпадак пажарнай небяспекі.

**— Не ведаю, Няфодзій Адамавіч, што вы ўкладаеце ў фразу: «зафіксаваны ўсяго некалькі ўзгаранняў». Некалькі — гэта колькі? Вось перада мной інфармацыя, змешчаная ў «Народнай газеце» за 18 мая г. г. Аўтар інфармацыі, спасылаючыся на дадзеныя галоўнага ўпраўлення пажарнай аховы МУС рэспублікі, піша, што з сакавіка па 15 мая агнём было ахоплена больш тысячы гектараў лясоў і тарфянікаў.**

— Але ж гэта не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што адбылося ў 1992 годзе. Сёлета з пажарамі хутка справіліся.

**— Мо і неба пасадзейнічала. З ліпеня ж як пачало ліць... Пра чалавека, які трапіў з бяды ў бяду, кажуць — трапіў з агню ў полымя. А рэспубліка трапіла, фігуральна кажучы, з агню ў ваду.**

— Так, з 22 па 24 ліпеня г. зн. за тры дні выпала трохмесячная колькасць ападкаў, што вылілася ў сапраўднае стыхійнае бедства. Асабліва ў паўднёвым рэгіёне рэспублікі. Найбольш пацярпелі ў Брэсцкай вобласці Столінскі, Пінскі і Лунінецкі раёны, у Гомельскай — Жыткавіцкі, Ельскі, Лоеўскі, Мазырскі, Калінкавіцкі і Нараўлянскі раёны. У многіх месцах вада ўзнялася на два метры і затапіла хаты. З-за таго, што Прыпяць, якая цячэ па Палескай нізіне, мае вельмі павольны сцёк, вада ў затопленых месцах стаяла да двух тыдняў. Згніло ўсё, што магло згніць — пасевы бульбы, збожжавых, скошанае сена. Па папярэдніх дадзеных, загінула больш як 350 тысяч гектараў пасеваў. Не кажучы ўжо пра змытыя дарогі, масты, меліярацыйныя збудаванні. Агульныя страты ад паводкі склалі ад 250 да 300 мільярдаў рублёў.

**— Як жа так атрымалася, што рэспубліка аказалася зусім непадрыхтаванай да гэтага стыхійнага бедства? Столькі гадоў вядзецца меліярацыя Палесся, укладзены ў яе мільярдныя сродкі і... вада бесперашкодна зрабіла сваю чорную справу. Значыць, не так рабілі меліярацыю, калі нарытыя ўздоўж і ўпоперак каналы не змаглі прыняць на сябе ўдар стыхіі... Ці яны ў нас не дагледжаныя, заплылі глеем, зараслі хмызняком?..**

— Вы тут памыляецеся. І каналы, і шлюзы спрацавалі. І яны, як правіла, спраўляюцца з нагрузкай у час звычайных веснавых і восеньскіх паводак. Але ж такую паводку, як гэта, не помняць старыя людзі. Бяда ў тым, што ў нас дагэтуль няма на Палессі сістэмы надзейнай аховы населеных пунктаў і сельскагаспадарчых угоддзяў, размешчаных уздоўж Прыпяці. Праўда, там, дзе ўжываецца польдэрнае земляробства, а гэта прадугледжвае наяўнасць спецыяльных збудаванняў і дамб, і сёлета наступленне воднай стыхіі было прыпынена і пасевы аказаліся некранутымі. Але ж суцэльнай дамбы, якая

(Працяг на стар. 12)



*Дзеці Чарнобыля* — Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА

# НЕВЫЧЭРПНАЯ СПАДЧЫНА

## ЖЫВОЕ СЛОВА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

**Аўтар, вядомы даследчык беларускай мінуўшчыны, дасведчаны і замілаваны знаўца старажытных рукапісаў і першадрукаў, прапануе чытачу найбольш дасканалыя гімнаграфічныя паэтычныя творы — малітвы — Кірылы Тураўскага «на всю седмицу». Яны ўзнаўляюцца паводле кнігі «Молитвы повседневные», надрукаванай у 1596 годзе ў друкарні беларускага праваслаўнага брацтва ў Вільні. Гэта якраз у тым годзе, калі польскі кароль забараніў ужыванне ў дзяржаўным справаводстве Вялікага княства Літоўскага беларускай мовы.**

Кніжка складаецца з дзвюх частак. У першую ўваходзіць тэкст аўтара на беларускай і рускай мовах, у якім ён разглядае малітоўна-паэтычную творчасць Кірылы Тураўскага. У гэтым жа тэксце размешчаны гравюры XIX стагоддзя: Тураў на малюнку Н. Орды; Архітэктура беларускай вёскі; Беларускія сялянкі; Старонка Тураўскага евангелля. XI ст.; Тураў. Старажытнае замчышча; Абразок Божай Маці з Турава. XIII ст.; Старонкі з рукапіснага зборніка XIII ст. з малітвамі Кірылы Тураўскага і іншыя.

Праз гэтыя гравюры непасрэдна ўздзейнічае на чытача сівая мінуўшчына — выклікае хвалюючыя адчуванні і вялікі эмацыянальны ўздым, уяўленні аб прыгажосці прыроды старажытнай Тураўшчыны, яе жыхарах і высокім узроўні іх культуры.

Другая частка — фотаўзнаўленне «Молитв на всю седмицу» па іх першым выданні. Тэкст выразны і добра чытаецца, даносіць да нас жывое слова Кірылы. Мова яго царкоўнаславянская, няблага разумеецца намі і сёння. Гэта мова царкоўнай службы, мова Ефрасінні Полацкай і Францішка Скарыны. Старонкі малітваў нагадваюць аб старажытных вытоках нашай рэлігійнай свядомасці.

У цікавым і змястоўным уступе аўтар разглядае малітву як пэўны славесны жанр, параўноўвае яе з літаратурай, паэзіяй, лірыкай, мастацкай творчасцю. Малітва — «гэта высокая духоўная творчасць», універсальная мова ўсіх людзей на зямлі, радасць і вера, дасканаласць і гармонія. Яна пераўтварае душу чалавека, яго жыццё, грамадства.

Малітвы пісаліся і пішуцца найвялікшымі майстрамі слова, сапраўднымі творцамі. Такім быў і наш Кірыла Тураўскі, які прысвяціў жыццё сваё малітоўнаму подзвігу ў слынным Тураве і Тураўскай зямлі. «Дзесьці тут, — піша Ю. Лабынцаў, — у глыбіні, карані нашай нацыянальнасці, самабытнасці, культуры. Гэта наша скарбніца, наша запаветнае багацце, тое адзінае і святое, без чаго не можа адбыцца ні асобны чалавек, ні нацыя».

Разважанні аўтара пра малітоўную творчасць Кірылы Тураўскага плённа спалучаюцца з разглядам гістарычных падзей, усведамленнем значнай іх ролі ў гістарычным развіцці. У старадаўняй Тураўскай статутнай грамаце сцвярджаецца, што ў Тураве ўзнікла адна з першых епіскапій у 1005 годзе, якой былі прыдадзены «в послушание» гарады Брэст, Пінск, Наваградак, Валкавыск, Смядынь і многія іншыя. Пачынаецца інтэнсіўнае будаўніцтва цэркваў і храмаў. Мясцовыя будаўнікі не капіравалі чужыя ўзоры, а шукалі новыя, творча фарміравалі самастойную мясцовую школу. Паводле мясцовых паданняў у старажытным Тураве было пабудавана семдзесят пяць ці нават восемдзесят цэркваў. Побач з княскім палацам стаяў Барысаглебскі сабор, манастыр пры ім — як адзін з галоўных ачагоў адукаванасці, кніжнасці, літаратуры, развіцця духоўнай культуры. Зусім невыпадкова, што менавіта ў Тураве ўжо ў XI стагоддзі з'яўляецца пергаменнае Тураўскае евангелле, частка якога знойдзена ў 1865 годзе. Цяпер яно захоўваецца ў Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. Яго фотакопіі ёсць таксама ў аддзеле рэдкіх кніг Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску.

Старажытны Тураў выдзяляўся таксама сваім духоўным жыццём. Любілі гараджане ў святы выходзіць у горад паслухаць мясцовых і прышлых музыкаў, спевакоў, паглядзець паказы лялечнага тэатра. Тут нараджаліся легенды, паданні, песні, іншае фальклорнае багацце. Менавіта з гэтага падмурка бярэ свае вытокі творчая спадчына «другога златавуста» — Кірылы Тураўскага. Натхняла яго не адна толькі кніжная мудрасць, падкрэслівае аўтар, «але і вунь той далёкі лес за Прыпяццю, сама рака, усё самае роднае і блізкае, што атачала яго змалку ў ціхай палескай старане».

«Вялікі Тураўлянін» аднолькава грунтоўна засвоіў культуру грэка-візантыйскага і заходняга свету. Але ў пакінутай нам спадчыне застаўся філосафам, мысліцелем, мастаком, грамадскім і рэлігійным дзеячам, красамоўцам роднай зямлі. Яго погляды на зямны і нябесны свет арганічна спалучаліся з прыгажосцю і дабрадзейнасцю. Адсюль вынікала адзінства зямнога і нябеснага, прыроды і чалавека, жыцця і культуры.

У заключнай частцы свайго даследавання Ю. Лабынцаў выказвае цікавыя і вельмі слушныя абагульненні. Ён сцвярджае, што Кірыла Тураўскі — пісьменнік народны, настаўнік, прапаведнік, мольбіт горача любімы і шанаваны, які пісаў «для ўсіх, для кожнага, для нас». Аўтар фактычна раскрывае перад чытачом логіку развіцця філасофскай, грамадскай, этычнай, эстэтычнай, рэлігійнай думкі ад Кірылы Тураўскага да Францішка Скарыны. Яны абодва хрысціяне і ў галоўных сваіх ідэях аднадумцы, гуманісты, еўрапейцы. Адначасова яны сыны свайго народа, сваёй зямлі, адзін Тураўскай, другі — Полацкай, увасабленне глыбінных крыніц гістарычнай свядомасці, духоўнай культуры, нацыянальнага гонару беларусаў.

З гэтай пераемнасці вынікае логіка развіцця беларускай культуры, у тым ліку і нацыянальнай філасофіі, ад старажытных часоў і да нашых дзён. Менавіта ў спадчыне Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Сымона Буднага, Сімяона Полацкага, Кастуся Каліноўскага, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага — карані, вытокі, крыніцы нашай нацыянальнай свядомасці і самасвядомасці, традыцый, стылю жыцця, мыслення, паводзін, працы. На жаль, некаторыя даследчыкі не ўсведамляюць рашаючай ролі нацыянальных вытокаў у развіцці беларускага этнасу і яго культуры. У энцыклапедычным даведніку «Францыск Скарына і яго час», што выдадзены не так даўно, у 1988 г., няма нават артыкула пра Кірылу Тураўскага і яго спадчыну. Затое /вядома, з дазволу рэдакцыйнай калегіі/ Г. Грушавы друкуе ў гэтым даведніку больш за 30 артыкулаў, прысвечаных вядомым і малавядомым заходнееўрапейскім вучоным, філосафам, рэлігійным дзеячам. У іх ён імкнецца пераканаць чытача у тым, што менавіта яны аказалі рашаючы ўплыў на фарміраванне светапогляду Францішка Скарыны. З яго артыкулаў вынікае, што не з радзімых вытокаў і крыніц вырастае творчая і вельмі шырокая па дыяпазоне, багатая і разнастайная па змесце спадчына нашага славутага нацыянальнага творцы, а з заходнееўрапейскай схаластыкі і культуры.

Зразумела, што Ю. Лабынцаў разгледзеў не ўсе пытанні малітоўнай творчасці Кірылы Тураўскага. Ён нават не нагадаў аб канонах святога Кірылы, якія складаюць асобную групу ягонай гімнаграфічнай творчасці. У адрозненне ад малітваў, яны з'яўляюцца творамі літургічнымі, прызначанымі для агульнацаркоўных службаў.

Малітвы Кірылы Тураўскага сапраўды высокамастацкія творы. Ён да іх адносіўся вельмі патрабавальна, грунтоўна рыхтаваў, творча выкарыстоўваў дасягненні і вопыт грэчаскага і візантыйскага красамоўства. Малітвы заўсёды былі канкрэтна скіраваны на прыхаджан. Прапаведнік шукаў і знаходзіў, трапна прымяняў псіхалагічныя прыёмы для дасягнення сілы, выразнасці, эмацыянальнай цеплыні пачуццяў, выкарыстоўваў разнастайныя мастацкія і лагічныя сродкі.

У малітвах, як і ў іншых творах, красамоўца прыдаваў вялікае значэнне структуры. Заўсёды выдзяляўся ўступ, галоўная змястоўная частка і заканчэнне. Гэта дазваляла аўтару дасягнуць паслядоўнасці пры пераказе, яснасці і перакананасці.

На першы погляд здаецца, што малітвы ўсе падобныя адна на другую, маюць устойлівую форму і аднолькавы змест, аднастайны ва ўсіх прапаведнікаў. Аднак у Кірылы Тураўскага яны значна адхіляюцца ад рэлігійных канонаў. Ва ўступе да малітваў ён выкарыстоўваў звароты, пытанні, пакаянні, самадыялогі і розныя іншыя сродкі. Зусім натуральна, што большасць малітваў пачынаецца са звароту да бога, багародзіцы, Ісуса Хрыста. Аднак самі звароты досыць разнастайныя: «слава табе, господзі божа мой»; «божа ўсемагутны»; «благаслаўляю цябе, господзі божа»; «владыко господзі» і іншыя. Часам святы Кірыл пачынаў малітву з пахвалы і ўзвышэння бога: «Хвалю цябе, господзі божа мой, пяю і велічаю і праслаўляю тваю міласэрнасць, бласлаўляю і ўзвышаю цябе, прасвяты, і ўсхваляю тваё чалавекалюбства, пакланяюся і ўсхваляю трохдзённае тваё ўваскрэсенне».

Звароты непасрэдна да асобы альбо вобраза дазвалялі прапаведніку ўздзейнічаць на пачуцці вернікаў, абуджаць у іх канкрэтныя ўяўленні, асацыяцыі. Выдатнае валоданне інтанацыяй, параўнанні, эпітэты, тропы і фігуры, метафары, увасабленні, гіпербалы — такі далёка не поўны пералік мастацкіх сродкаў, выкарыстаных у царкоўным красамоўстве святым Кірылай Тураўскім.

У заключэнне падкрэслім, што Юрый Лабынцаў падрыхтаваў і выдаў змястоўную, цікавую і прыгожую кніжку пра малітоўную спадчыну Кірылы Тураўскага, якая ўзбагачае нашы пачуцці і веды аб старажытнай мінуўшчыне.

**А. КЛЯЎЧЭНЯ,**
**доктар філасофскіх навук**

*Юрый Лабынцаў. «Напой росою благодати»... Малітоўная паэзія Кірылы Тураўскага. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1992.*

# ПРАЎДА — ЯНА І ЁСЦЬ ПРАЎДА

Гэтая першая празаічная кніга вядомага рускага паэта Аляксандра Дракахруста мае назву «Белый шум». Не спяшайцеся ў неўразуменні паціскаць плячыма, маўляў, з якой гэта яшчэ нагоды шум набыў колер. І чаму белы, а не, скажам, зялёны або сіні? А дала кнізе назву аднайменная аповесць, з якой вы даведаецеся, што на сапёрскім сленгу «белым шумам» называюць сітуацыю, калі праз навушнікі мінашукальніка чуваць бесперапынны сігнал — сведчанне таго, што кожны метр зямлі нафаршыраваны металам — мінамі, асколкамі бомб і снарадаў, кулямі і стрэлянымі гільзамі, усім тым, што прыдумаў чалавек для знішчэння сабе падобных.

Як вы, мабыць, ужо здагадаліся, дзея аповесці разгортваецца ў час Вялікай Айчыннай вайны, а калі больш дакладна, у канцы красавіка 1945 года ў Берліне, які штурмавалі савецкія войскі.

Не было, відаць, на вайне людзей, якія б не спадзяваліся ацалець, выжыць у вогненнай віхуры, як гаварылася ў папулярнай песні тых гадоў, «всем смертям назло». Ды і сам герой аповесці — наваспечаны малодшы лейтэнант, які трапіў у пекла вулічных баёў у Берліне адразу пасля заканчэння кароткатэрміновых афіцэрскіх курсаў, таксама сам сябе ўвесь час «угаворвае», што каго-каго, а яго не павінны забіць. Ён гэта цвёрда ведае, хоць забіць могуць кожную хвіліну — вось каля таго дома, подступы да якога немцы паліваюць шалёным агнём і які, паводле загаду, ува што там ні было трэба ўзяць. І «ўва што б там ні было» — бралі, не лічачыся ні з якімі ахвярамі.

Штурму Берліна прысвечаны безліч кніжак і кінастужак. Пафас большасці з іх пераважна ўзнёслы. Хоць страшны, трагедыйны напал вайны ў яе апошнія дні і гадзіны і дасягнуў свайго піка. Ці не ўсіх савецкіх военачальнікаў, у тым ліку і самых славутых, такіх, як Г. Жукаў, можна было западозрыць у чым заўгодна, але толькі не ў тым, што яны шкадавалі, бераглі салдацкія жыцці. Тым больш, на заключным этапе вайны, калі, баючыся, што саюзнікі першымі ўвойдуць у Берлін, падштурхоўваемыя загадамі Сталіна, кідалі ў агонь сотні і сотні тысяч салдат, усцілаючы трупамі дарогу да рэйхстага.

«Белый шум» уваскрашае гэтыя апошнія старонкі вайны, уваскрашае з непадробнай дакладнасцю, з мноствам яркіх, красамоўных дэталяў, якія могуць быць вядомы толькі чалавеку, які сам прайшоў франтавымі дарогамі.

Напісаная амаль праз паўвека пасля Перамогі, кніга дала пісьменніку магчымасць з такой адлегласці асэнсаваць перажытае, і як гэта ні парадаксальна, лепш разабрацца ў сваіх тагачасных пачуццях, сваім тагачасным светаўспрыманні.

Пасляваенная партыйная крытыка сурова бэсціла аўтараў кніг, дзе вайна, франтавыя будні, франтавы салдацкі побыт маляваліся ў ключы, што не адпавядаў афіцыйнай ідэалогіі. Такіх пісьменнікаў папракалі ў тым, што яны, маўляў, не могуць узняцца над «акопнай праўдай», і тым самым быццам бы прыніжаюць гераічны подзвіг савецкай арміі ў Вялікай Айчыннай вайне.

«Акопнай праўды» трымаецца і аўтар аповесці «Белый шум», і гэта адна з яе перавагі, бо праўда — яна і ёсць праўда.

Айчыннай вайне прысвечаны і сабраныя пад гэтай вокладкай апавяданні. Некаторыя з іх уразяць чытача нечаканымі паваротамі сюжэтаў, выклічуць у яго горкую ўсмешку, калі, скажам, ён прачытае пра некаторыя «тайны» франтавога быцця /напрыклад, пра размеркаванне франтавым начальствам баявых узнагарод у апавяданні «Выпадковая зорка»/.

Ёсць у кнізе і апавяданні, прысвечаныя падзеям, якія дагэтуль вострым болем адгукаюцца ў нашай свядомасці — гэта і сталінскія рэпрэсіі, якія закранулі непасрэдна сям'ю пісьменніка, гэта і атручаная міязмамі нянавісці «барацьба» з касмапалітамі, і сфабрыкаваная так званая «справа ўрачоў»...

А на заканчэнне колькі слоў трошкі пра іншае. За многія гады працы ў «ЛіМе» гэта ці не першая мая спроба выступіць у неўласцівым мне жанры кніжнай рэцэнзіі. Падштурхнула мяне на гэты «подзвіг», па-першае, пачуццё ўдзячнасці аўтару за харошую кнігу, якая вяртае нас да найбольш пякучых старонак гісторыі краіны, а па-другое, усведамленне таго даволі сумнага факта, што творчасць Аляксандра Дракахруста, якая даўно мае свайго прыхільнага чытача, не пасціла сваёй увагай літаратурная крытыка. А, дальбог, дарэмна.

**М. ЗАМСКІ**

*А. Дракахруст. «Белы шум». Аповесць, апавяданні. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1993.*

Паэзія

Яўген ХВАЛЕЙ



## ТУТ

Мархачоўшчына, Качаноўшчына —
Сыракомля і Серакоўскі...
Тут зямля у жытнёвай абнове
мне знаёма да кропкі і коскі.

Здзешча, бачу сляды Сыракомлі,
маладога, з Нясвіжскага замка:
вось начуе у лузе ён з коньмі
пад высокаю зоркаю самай.

Вунь і котлішча Серакоўскага —
купка дрэваў, пасаджаных ім,
ды не простых, пароды заморскае —
бачна: быў гаспадар пілігрым.

Кацярынінскім трактам будзе
у Нясвіжскую семінарыю
ехаць Костусь Міцкевіч з Альбуці —
шчэ далёка турэмныя нары.

Ён успомніць «дарэктара» першага,
што тутэйшы быў, з Галавенчыц,
з ім чытаў па складах словы з вершаў
пры лучыне зімою увечар.

Пэўна ж, тут быў з Панямоні
паваеннай зранены Пысін.
Адкрываў ён у сэрцы гармонію
паэтычную поля і высі.

Я дарогаю еду адною
у зажынкі, дажынкі, дакоскі...
Тут зямля у жытнёвай абнове
мне знаёма да кропкі і коскі.

●

На строме завісла сасна,
на самым ажно краечку.
А ў голлі трапеча вясна,
і птушка пяе ў гняздзечку.

Не хочацца думаць, што лёс
нізрыне яе у прадонне.
Я думы свае ёй прынёс —
Яны на яе так падобны.

Хоць думы мае без мяжы —
ды бачаць краечак над стромай,
дзе іх за наміткай імжы
спалоніць спрадвечная стома.

## ЯЗЭПУ ЛЁСІКУ

...Пракурор беларускае мовы.
/Міхайла ГРАМЫКА/

«Пракурор беларускае мовы»
Стаў ахвярай тэрор-пракурораў...
«Маскалізмы — не нашыя словы...» —
А таму ты — найпершы вораг.

А таму ты — павечны выгнаннік,
Пасяленец расейскай зямлі,
Каб «нацдэмства» твайго паганага
Больш не чулі ні тут, ні ў Крамлі.

Каб забыў ты сястру і брата,
Жонку мілую, дзетак сваіх...
Вось чаму — у Саратаве краты...
Твае думкі аб родным між іх...

«Успльваюць маленства і Нёман...
Беларускай зямелькі сыну,
Бераженькі, аўсянкі і жоўны
Мне давалі там першы свой «сынтакс».

Там і бацька, і маці, і Ганна,
Богам дадзеная сястрыца,
Прамаўлялі, як хвалі ўранні,
Там цячэ гамана, як вадзіца.

Мовы там мае ўсе акадэміі —
Ад травінкі і да калосся.
Там я з вамі, нібыта ў Эдэме,
Лукашы, Тамашы і Антосі.

Зорка Мілавіца незабудкай
Свеціць ноччу, світанкам і днём.
Парадніў мяне лёс з Альбуцкімі,
Асаблівa з адным — Кастусём.

Мець такога пляменніка кожны
Захацеў бы на роднай зямлі,
Калі з зерня малога Колас
Нам асвеціць радзімы палі.

А яшчэ мне жыццё даравала
Жонку — доньку Ядвігіна Ш.
Ах, мая шматпакутніца Ванда, —
Нібы ў кнігаўкі-птушкі душа.

Меў сяброў самых лепшых на свеце —
Ігнатоўскі, Ластоўскі, Гарун...
Іх таксама не лашчыў вецер,
А страляў навальнічны пярун.

Лёс — майго прозвішча корань...
Веру,
нелітасцівы мой лёсе:
Зорна ўзыдзеш, —
але не паўторышся
У нашчадках —
над нёманскім плёсам».

## ЛІШНІ ДЗЕНЬ ВЫСАКОСНАГА ГОДА

Ён — лішні дзень...
Апошнія хвіліны
сцякаюць, быццам кроплі з ледзяша.
Але чаму пад сосны і хваіны
не хоча адпусціць яго душа?

Ён — лішні дзень...
А для каго? Для года?
Не, году ён патрэбен, як і мне.
Яшчэ пакуль — зімовая прырода,
і сэрца не расчуліць ёй
вясне.

Ён — лішні дзень?
Не, ён зусім не лішні,
калі ў цябе ў запасе, можа, дзень,
і ты стаіш адзін прад Усявышнім,
і недзе апраметная гудзе...

Ён — лішні дзень...
І год з ім нешчаслівы?
Ну, што ж, няхай...
Але ж ёсць гэты самы дзень,
калі імгненні, хвілі ты імклівыя
спрабуеш затрымаць, бы ўласны цень.

Бо ты не ўсё паспеў зрабіць,
не здолеў...
І голас твой націнаю дрыжыць...
Мо ў гэты дзень каўтнеш глыток ты волі,
а з воляй слаўна хоць бы міг пражыць...

## ТРЫЯЛЕТ

Па першапутку ходзіць звер,
Ляціць нязнаным шляхам птушка.
А ты збаяўся першапутка —
Па першапутку ходзіць звер?

Таму і страшна, сціпна, пудка,
І першапутку недавер?
Па першапутку ходзіць звер,
Ляціць нязнаным шляхам птушка.

Эдуард АКУЛІН



## АГОНЬ

Хто сказаў, што агонь не жывы,
той не бачыў агню жывога...
Зніч алтарны — заўжды жывіць
мне душу чысцінёю Бога.

Папракаем, што часам злым
ён бывае, а самі злыя.
Хай агонь, што гарыць дваім,
будзе добрым, павек не дыміць.

Калі час, нібы воск, збяжыць
на апошняга дня імшы,
не спяшайце агонь тушыць,
ён — маяк на шляху душы.

## ТУПІК

Здавалася — шлях невышечны.
А сталася — вечнасць, як міг.
І вось ужо фарамі стрэчны
міргнуў — асцярожна, тупік...

Не скінуўшы ходу — навошта,
з надзеяй кудысьці паспець,
душа — галубіною поштай,
якой зачакалася Смерць.

## СУСТРЭЧА

За дзень нерыбацкі — прэміяй
была мне гадзіна позняя.
У сціплым убранні Евіным
цябе сустракала возера...

І вёслы, і голаў страціўшы,
не помню да гэтых дзён, —
цябе я спаймаў, ці трапіў сам
у чараў тваіх палон.

Блукаю здзічэлым берагам,
зарослай сцяжынай памяці,
упарта ў падман не верачы
разгубленых слоў русалчыных.

●

Ад нараджэння — навырост
жыццё нам звыш наканавана...
Пакуль люстэрка неба Лёс
не захіне радном тумана.

І апусцелы цела гляк,
дзе успамінаў прысмак горкі,
душа пакіне — і няўзнак
перавысоціцца у зорку.

Каб, перамогшы хаос сноў
і спробу самаадрачэння,
цярновым шляхам да яснот
прайсці за міг да узнясення.

## СОН

Лістапад за астатняй лістотай
шле паўночных вятроў чараду.
Па снезе, што выпаў употай,
да цябе на спатканне іду.

У чаканні чуллівай пяшчоты
знерухомеў разгублены сад...
Гэты снег і каханне употай
нам з табой падарыў Лістапад.

— А на снезе кахаць ты умееш?..
Шлюбным ложкам хай стане нам ён.
А прачнуся — і ўсё зразумею:
гэта — сон, гэта — восеньскі сон.

●

Нашу у сэрцы двух анёлаў:
святла анёла і начы.
Адзін чароўны мае голас,
другі насуплена маўчыць.

Адзін кахае да знямогі,
другі нянавісцю гарыць.
Адзін заве у служкі Богу,
другі — Люцыпару служыць.

Адзін ахоўвае ад звадак
і чорных дум у галаве.
Другі спакусіць хоча здрадай,
душу маю на часткі рве.

Нашу у сэрцы двух анёлаў...
Якому з іх перамагчы?
Дрыжыць пялёстак свечкі квола
на донцы восеньскай начы.

## НАДЗЕЯ

Мае сны без цябе пустыя.
Спаць кладуся — нібы ўміраю...
Сам спалю за сабой масты я,
калі вымавіў: — Не кахаю...

Ды з надзеяй аб новай стрэчы
ад самога сябе употай —
непатушанай кіну свечку
я у храме сваёй самоты.

## КРАІНА НАЧЫ

Мы маўчым, мы зацята маўчым.
Нашы душы абльтала плесень...
А на поўдзень — краіна Начы,
і груган сёння — сімвал Палесся.

Ды адчай немагчыма схаваць.
Як душу не ачысціць нідзе.
Мне Радзіму уночы шукаць
па сцяжыне, што з ночы вядзе.

Беларусь, мая хворая маці,
са слязою Сажа на шчацэ,
у парваным чарнобыльскім плашчы
пачарнелым Сусветам брыдзе.

## ТЫ ТАК ХАЦЕЛА

Выйду ў туман і стану
сам, як туман, самотны.
Сее слату падману
погляд вачэй халодных.

Цешся сваёй красою.
Восень — твая стыхія.
Покуль каса пятлёю
не упадзе на шыю.

Стане туман расою —
ад перапёлак слёзы...
Выгнецца стан лазою
супраць віровых лёзаў.

Вось я і стаў туманам,
як ты таго хацела.
Пацерам знік парваным,
плачам душы бясцелай.

Проза

Бывае так стомішся за тыдзень, што цэлую нядзелю праляжыш на канапе, чытаючы бульварную белетрыстыку, і толькі падвечар спахопішся, дый разгорнеш томік Артура Шопенгаўэра, пачнеш праглядаць і ставіць на маргінэзе ў тэксце розныя значкі: + /крыжык/ — кепска, ? /пытальнік/ — няўцямна, V /птушка/ — згода, VV /дзве птушкі/ — варта вярнуцца. Наранку, у панядзелак глянеш на ўсе свае кручкі, кропкі і рыскі ды падумаеш: суцэльнае вар'яцтва. А ў сераду ці чацвер усё ж занатуеш сякія-такія думкі, сам не ведаючы нашто.

Немагчыма выйсці за межы ўласнай індывідуальнасці, але варта паспрабаваць.

Самы танны гатунак гонару — нацыянальны гонар... Чытаеш у Шопенгаўэра. І можна верыць, калі не чытаць наступнае... Немцы свабодныя ад нацыянальнага гонару і гэтым даюць доказ сваёй уласнай сумленнасці.

Сапраўднае задавальненне немагчыма атрымаць без абмежаванняў і запатрабаванняў.

Адважыцца на самазабойства можа самы здаровы і нават вясёлы чалавек, калі велічыня пакутаў або немінучыя бяды пераадолеюць жах смерці... Убачыш у Шопенгаўэра, і ўзнікае пытанне. Ці зможаш ты пераадолець жах смерці? Вядома! Раней ці пазней, а ўсе там будзем.

Ты маеш утрая менш, чым маюць цябе. Маёмасць — палон добраахвотны і салодкі. Кожная прыдбаная рэч толькі павялічвае залежнасць.

Ёсць кнігі, якія не трэба вяртаць, нават калі табе давялося доўга выпрошваць і абяцаць, што заўтра абавязкова вернеш. Па такія кнігі гаспадар сам мусіць прыйсці, чым і давядзе, што яму кніга патрэбна больш, чым табе.

Апранахі блазнаў і каралёў аднолькава зіхаткія. Зусім не прынцыпова тое, што ў аднаго золата сапраўднае, а ў другога — штучнае, бо іх словы здатныя выклікаць адно ўсмешку.

Кожная нацыя смяецца з іншых, тым часам як іншыя насміхаюцца з яе. Шкада, што з Тваіх беларусаў пасміхаюцца вельмі мала. Зрэшты, такая і нацыя.

Выбачай, а Ты ніколі не заўважаў, што ў прозвішчы Шопенгаўэр хаваецца Шапэн?

Няўжо слава прыйдзе тады, калі Ты канчаткова страціш гонар?

Ты любіш павагу да сябе толькі за перавагу, якую яна дае над іншымі, за жывёльную вагу.

Каму не трэба саступаць, дык царкоўнікам і жанчынам. А Ты ўвесь час саступаеш, асабліва апошнім. Сцеражыся, бо ўсё больш і больш трапляюцца на шляху царкоўнікі і жанчыны ў адной асобе.

Злапамятнасць і злараднасць — два слупы, на якіх трымаецца нацыянальная годнасць, бо нацыя не павінна нікому даравацъ нават дробныя напады на свае правы. Таму на занятках па гісторыі Ты вывучаў розныя крыўды, бойкі ды войны. Вось таму на ўсіх скрыжаваннях услаўляюцца забойствы ды забітыя, крыважэрнасць, названая подзвігамі. Вось і святкуюцца ваенныя перамогі ўсенародна. Не ўдзельнічай у гэтых урачыстасцях.

Быку падабаецца бык, аслу — асёл, свінні — свіння... Чуеш у Эпіхарма. Можа, таму, спрабуючы ўявіць Бога, Ты малюеш чалавека? А можа, Бог, ведаючы слабасці і абмежаванасці Твае, з'яўляўся ў вобразе любімым і зразумелым? Нашто Усемагутны патакае слабому? Адкажа паэт Эпіхарм... Быку падабаецца бык!

У пасрэдных людзей, якіх пераважная большасць, ёсць патаемны пароль:

Адам ГЛОБУС

# КАНТАМІНАЦЫІ

## Занатоўкі эгаіста, напісаныя з нагоды чытання Артура ШОПЕНГАЎЭРА



прэч заслугі. І калі ты хоць на крок выйдзеш наперад, дык адразу пачуеш за спінаю абразы і знявагі, якія выкане хор пасрэднасцяў.

Слава кампануе свае карціны такім чынам, што ў адзін тэлевізійны кампот трапляюць зусім розныя асобы: генералы і шарлатаны, міністры і фігляры, мільянеры і спевакі. Табе застаецца толькі выкінуць злучнік, замяніўшы яго на дэфіс, і зрабіць выснову. Генерал-шарлатан, міністр-фігляр, спявак-мільянер — вось яны, абраннікі народнай славы. Мае рацыю Шопенгаўэр, калі піша... Слава сярод сучаснікаў нячаста ператвараецца ў трывалую пасмяротную славу.

Як пазбегнуць найвялікшай страты — смерці маці? Пайсці з жыцця раней! Нашто было пытацца?

Абмяжуй уласныя патрэбы і пазбегнеш большасці расчараванняў, але тады не атрымаеш і сапраўдных задавальненняў. Выбірай.

Можаш уласны вопыт параўнаць з тэкстам кнігі, а зробленыя высновы — з каментарам. Можаш рабіць і наадварот: змястоўныя кнігі залічваць ва ўласны вопыт.

Ад кожнага па здольнасцях, кожнаму па запатрабаваннях. Існуе і такая схема пабудовы грамадства. Але чым большыя здольнасці, тым меншыя запатрабаванні, і наадварот. Таму здольнікі маюць мінімум, а патрабавальнікі максімум, дый тое тэарэтычна; у жыцці яны амаль роўныя, бо прыхоўваюць і здольнасці і запатрабаванні. Хавайся.

Ілжывасць — вось мова, зразумелая ўсім народам, на ўсіх нарадах і ва ўсе часы.

Калі падманваеш дарослага, перажываеш менш, чым падмануўшы дзіця, бо да дзіцяці ставішся досыць сумленна, амаль як да самога сябе. Падманутага заўсёды шкада.

Унутраная пустата і незадаволенасць — вось што гоніць чалавека ў суполкі, у вандроўкі і на чужыну... Прачытаеш у Шопенгаўэра. Але ёсць жа стома ад самога сябе, ад навакольнага краявіду, ад перанасычанасці пастаянствам. Тады, каб адчуць смак адзіноты, руш у падарожжа ці наладжвай дыспут і ўдзельнічай у спрэчках.

Ты баішся адзіноты прыблізна так, як і смерці. Твая вера ў жыццё пасля смерці нагадвае спадзяванні літаратара, які думае, што ягоныя творы калі-небудзь дый прачытаюцца.

Лепей адразу запісаць сваё меркаванне, чым прылюдна яго выказаць. Спакайней жыць літаратарам, чым вастрасловам. Вядома, цяжка стрымлівацца, бо думка нараджаецца ў роце, а не дзюбцы алоўка.

Было б добра, каб Ты зразумеў, што існуюць чатыры арыстакратыі: арыстакратыя ўлады, арыстакратыя капіталаў, арыстакратыя розуму і арыстакратыя ад нараджэння. І было б яшчэ лепей, каб Ты не рабіў спробы садзіцца адразу на чатыры крэслы.

Дзень — маленечкае люстэрка, у якім адбіваецца ўсё жыццё. У геніяльнага чалавека не бывае бяздарных дзён. Ёсць у яго сумныя хвіліны, вясёлыя імгненні, трагічныя тыдні, а бяздарных дзён няма. Таму дастаткова чалавеку таленавітаму апісаць адну сустрэчу з геніем, каб Ты зразумеў і ўбачыў веліч выбітнай асобы.

Ёсць літаратары, якія свядома вярэдзяць свае найчарнейшыя ўспаміны, занатоўваюць гідкія сны ды брыдотныя фантазіі. Героі такой творчасці атрымліваюцца найбліжэйшыя да народа. Ты можаш асудзіць творы падобнага кшталту, а можаш іх выкарыстаць — апрацаваць, як апрацоўваецца фальклор.

Задумвайся не над набыткамі, а над стратамі. Радуйся не прыдбанаму, а нязгубленаму. Лепей свядома аддай, чымсьці выпадкова займей.

Як ужо казалася, да смерці бацькоў не падрыхтуешся.

Не спяшайся з перакладам уласных твораў на іншыя мовы, бо гэта не ідзе на карысць Тваёй сям'і, Тваёй дзяржаве і Тваёй нацыі. Неперакладзенае, ненадрукаванае, нявыказанае ўтрымліваюць у жыцці.

Найбольшасць папрокаў выслухоўваеш з-за непаслядоўнасці. Ну, а як можна быць паслядоўным, калі сама прырода выступае супроць запланаванасці?

Сеў палуднаваць. Жонка наліла ў талерку наварыстае капусты з мясам і забяліла смятанаю. Падносіш першую лыжку да рота і чуеш: пад вакном зацягнулі пахавальны марш. З поўнай лыжкаю ўстаеш і са свайго пятага паверха бачыш: з пад'езда выносяць труну з нябожчыцаю. Мітуслівы лысы фатограф ладзіць здымкі. Труну нахіляюць так, што нябожчыца ледзь не выкочваецца на асфальт. Фатограф паспявае падтрымаць труп. А вось капуста з лыжкі вывернулася на твае адпрасаваныя нагавіцы. Есці, вядома, не хочацца. Звычайнае запланаванае палуднаванне ператвараецца ў пакуту. Ты ледзь-ледзь прымушаеш сябе зрабіць адзін глыток чорнае кавы. Званок у дзверы. На парозе стаяць дзве дзяўчынкі ў святочных сукенках. Большая, дзевяцігадовая — аднакласніца тваёй дачкі. Яна і пытае... А дзе Ваша Ядзя? У школе. А вы чаму не на ўроках? А ў нас бабуля памерла, — адказвае меншая. Мы Ядзі цукеркі прынеслі, — дадае большая. На дзіцячых тварах зззяе натуральная радасць. Недарэчнасць, але дзеці прыйшлі падзяліцца не горам, а радасцю. Ты не можаш папракнуць дзяўчатак, толькі цукеркі выкідаюцца ў смецце.

Лепш сутыкнуцца з прыроднай непасрэднасцю, чым назіраць тэатральную няшчырую паслядоўнасць.

Знайшоўшы мэту жыцця, пачынаеш пошук сродкаў дзеля яе ажыццяўлення і неўзабаве разумееш: у ахвяру мэце трэба аддаць уласнае жыццё. А ці вартая мэта, хай сабе і найвышэйшая, каб губляць жыццё? Пэўна ж, не. Лепей адмовіцца ад мэты жыцця дзеля самога жыцця. Так яно і здараецца.

Асэнсоўваць непатрэбнасць усялякай вайны варта ў цішыні і на адзіноце, бо ў акопе табе не будзе калі падумаць нават пра вайну.

Калі не знойдзеш сабе занятак, ён сам знойдзе цябе. У большасці сваёй гэта будзе нікчэмная і пустая страта часу: п'янства, распусныя вандроўкі, глядзенне ў тэлескрынку...

Бяздзейнасць — справа невыносная, амаль нездзяйсняльная. Толькі вельмі мужны чалавек можа абраць бяздзейснасць за асноўны занятак.

Не выбірай за арыенціры мроі і фантазіі, бо разаб'еш лоб аб рэальны слуп.

Пакуты творцаў зазвычай беспадстаўныя: мастаку здаецца, што рэальныя карціны горшыя за ўяўныя, а літаратар перакананы, што яшчэ не напісаў вартага твора.

Каб ператрываць чорныя часы, бывае дастаткова ўявіць чарнейшыя хвіліны.

Заўважаеш — узненавідзеў свет: гэта блага, тут кепска, паўсюль цёмна, людзі — ворагі, няздары, пачвары. Крочыш бязмэтна. Сцюдзёныя проймы свішчуць паміж бруднымі будынкамі, шархацяць пакамечанымі газетамі. Пад чаравікамі плюхае раскіслы снег. Насустрач сунецца чырванапысае стварэнне з сінім носам дый слязлівымі вочкамі. Дзякуй табе, Божа, што не даў мне такога твару! — думаеш Ты. Вось і палёгка.

Нікога не чапаеш, каб толькі не каранілі Цябе. Не выходзіць. Лезуць і лезуць, нібыта хочуць Табе дапамагчы жыць.

Ветлівасць — навука суіснавання.

Калі не стае ведаў, каб размаўляць і падтрымліваць разумныя адносіны, тады звяртаюцца па дапамогу да спіртнога, тытуню, кавы і гарбаты.

Памятаеш, быў мастак, які ўтварыў нават суполку тартаедаў?

Задумвацца, вось што цяжка. Знойдзецца няшмат людзей, здатных на такую, здаецца, просценькую справу. Значна лягчэй услухоўвацца, прынюхвацца, хадзіць — дзейнічаць. Большасць людзей наогул не можа сядзець спакойна, яны ці то пастукваюць пальцамі па стале, ці то качаюць шарыкі з хлебнага мякішу. Іхнія вочы і вушы насцярожаныя, пільныя, як у жывёлы. Не памылішся, сказаўшы, што жывапіс і музыку ўспрымае нават котка, а вось задумвацца можа толькі чалавек і далёка не кожны.

Любоў — з'ява суб'ектыўная, цьмяная, жаноцкая і сляпая, а вось павага — аб'ектыўная, мужчынская рэч, яна асветлена Тваімі развагамі і розумам.

Пялюшкі заўсёды чорныя.

Сяброўства ўмацоўваюць не прызнанні ў любові і павазе, а разгадванні патаемных учынкаў, якія сябра намерваўся схаваць ад Цябе.

Пазбягай стасункаў з людзьмі нікчэмнымі...

Асабліва небяспечны ў гэтых адносінах тэлефон, бо чужы голас адразу трапляе ў тваю свядомасць. У пакоі, дзе стаіць тэлефонны апарат, немагчыма засяродзіцца, немагчыма займацца творчасцю.

Тэлефонны даведнік — пранумараваная безабароннасць.

Навучыся заўважаць і адрозніваць тых, хто ўладкоўваецца ў мяккі фатэль, і тых, хто сядае на мулкі зэдлік.

Два разы пачынаць сяброўства з адным і тым жа чалавекам — глупства. Але, па Тваіх асабістых назіраннях, робіцца гэта менавіта два разы. Адной сваркі з сябрам недастаткова, каб пераканацца ў непатрэбнасці сяброўства.

На першы погляд, дзяржава — пабудова антыпрыродная, бо яна імкнецца забараніць дзве з асноўных праяў эвалюцыі: падман і забойства. Але пры больш пільным разглядзе заўважаеш: калі з дапамогаю законаў ды пакаранняў дзяржава здольная збольшага забараніць гэтыя праявы на ўласнай тэрыторыі, дык адразу ж распачынаецца вайна з суседнімі дзяржавамі, яна сама пачынае падманваць і забіваць. Дзяржава вымушана забіваць чужых і сваіх, каб не забіваць адно сваіх. Дзяржава — прыродная пабудова, як статак, як зграя, як гання.

Пазбягай дзяржаўных узнагародаў.

Як вока бачыць знешняе святло, а вуха чуе навакольныя гукі, так розум рэагуе на свет духоўны.

Ёсць асобы, якія падпарадкавалі свой розум воку — жывапісцы, ёсць асобы, якія ставяць вышэй за ўсё гук — музыкі, а трапляюцца і такія, што пах прыладжваюць у чырвоны кут — парфумеры. З лупавокіх, вушастых, насатых, рукастых ды языкатых складаецца большасць чалавецтва.

Разумных, а тым больш духоўных зусім мала.

З большасцю знаёмых Ты перастаў бы вітацца, каб толькі пачуў, што яны гавораць пра Цябе за вочы. Дый яны перасталі б з Табою размаўляць, каб даведаліся, што Ты пра іх думаеш. Што зробіш... Патаемныя словы і думкі найцікавейшыя.

Любоў, як і сяброўства, залежыць ад прысутнасці і аддегласці. Чым бліжэй любы чалавек, тым лягчэй захоўваць з ім добрыя адносіны. А вось каханне вымагае адсутнасці, яно існуе ў тваім уяўленні. Рэальная прысутнасць каханага чалавека, блізкасць разбураюць цнатлівае пачуццё.

Агрэсіўнасць ідзе ад неразумнасці. Але не кажы, што ад розуму сыходзяць падман і хітрасць, бо і яны выцякаюць з неразумнасці. Разумнасць — гэта спакой.

Ветлівасць — умоўнасць, такая ж самая, як і папяровыя грошы. Калі разумнасць — залатая манета, дык ветлівасць, выхаванасць, далікатнасць — зашмальцаваныя ад штодзённага ўжытку банкноты. Толькі памятай: па хлеб не пойдзеш з залатым талерам.

Калі сапраўды збярэшся вучыць іншых, не забудзься ўзяць кій ды надзець шлем.

Лепей на поўным сур'ёзе пахваліць сябе, чым у жартоўнай форме прыўздымаць дурня.

Забывацца на кепскія ўчынкі іншых яшчэ паўбяды, а запамятаеш уласныя кепскія дзянні, дык лічы, што згалеў.

Моц халаднакроўных гадаў у тым, што яны здатныя не толькі ўкусіць, а ў дадатак і атруціць. Кінжал ды келіх з атрутаю — Твая зброя, калі разумны і мужны. Зрэшты, атруту можна выпіць самому, не раўнуючы як Сакрат.

Пастаяннасць зменаў стоміць і адначасна супакоіць.

Калі паверыш у пастаяннасць змяненняў, давядзецца прыняць і памылковасць любога выніку, бо ён не зможа быць канчатковым.

Гадзіна ў дзіцяці ўтрая даўжэйшая за гадзіну ў дарослага.

Згадай, як ты, хлопчыкам, сядзеў каля печы, чакаючы, калі дзед Бронік вернецца з працы, як не хацелі паўзці стрэлкі гадзінніка, што ўзвышаўся на буфеце...

Nil admirari — нічаму не здзіўляцца! Вось лозунг, пад якім лёгка паміраць.

Любоў да грошай павялічваецца з узростам.

Успомні, як любяць старыя пераказваць адзін аднаму, хто колькі даў унукам на цукеркі.

Любіць сябе проста, а паважаць цяжка.

Музыка

# ПАДАРУНАК ДЛЯ ІНТЭЛІГЕНТАЎ

***«Музычная культура гарадоў Беларусі ў XVIII стагоддзі» — гэтае выданне, што пабачыла свет ў канцы мінулага года, папоўніла, як вядома, спіс бібліяграфічных рэдкасцяў. Выдавецтва «Навука і тэхніка» падаравала чытачам у паліграфічных адносінах амаль бездакорна падрыхтаваную кнігу. А дзякуючы яе аўтару мастацтвазнаўцу Вользе Дадзіёмавай з'явілася цудоўная і рэдкая магчымасць — адкрыць для сябе мноства невядомых звестак пра колішнюю гарадскую музычную культуру на землях, што ўваходзяць у сучасную Беларускую дзяржаву.***

Аднак было б несправядліва казаць, што тут раскрыты шэраг формаў толькі **музычнага** жыцця, музычнай культуры пэўнага рэгіёна. Праблема трактуецца аўтарам у нейкім сэнсе інтэрдысцыплінарна — у спалучэнні звестак з чыста музычнай сферы і праблем да пытанняў агульнагістарычнага характару, у звязку іх з разглядам асаблівасцей характару і побыту розных саслоўяў, розных пластоў тагачаснага насельніцтва з практыкай каталіцкай і часткова праваслаўнай царквы, з тэатрам, школьным выхаваннем. Я спецыяльна падкрэсліваю гэтую рознабаковасць асвятлення, здавалася б, вузкапрафесійнай тэматыкі, бо лічу, што кнігу В. Дадзіёмавай з аднолькавай цікавасцю прачытае і музыкант, і педагог, і мастацтвазнаўца, дый іншы інтэлігент іншай спецыяльнасці, які цікавіцца гістарычнай мінуўшчынай Беларусі, Польшчы, Летувы, мінуўшчынай кожнай іншай еўрапейскай краіны найцікавай эпохі барока. І паўтару: асаблівa таму, што гэта кніга — адкрыццё, адкрыццё невядомых старонак вельмі багатага мінулага.

Кніга мае не толькі тэндэнцыі інтэрдысцыплінарныя /што ў сваю чаргу сведчыць пра шырыню і глыбіню эрудыцыі і ведаў яе аўтара/, але і інтэрнацыянальныя. Бо яна разглядае з'явы, асобы, інстытуцыі, установы, аб'яднанні ды іншыя формы вельмі разнастайнай дзейнасці ў гарадах беларускіх земляў XVIII ст., непарыўна звязаныя з культурай некалькіх народаў, перш за ўсё польскага, летувіскага, беларускага, з жыватворным уплывам прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей /напрыклад, немцаў, італьянцаў, чэхаў і інш./, якія ўнеслі сваю часцінку ў будаўніцтва падмурка беларускай музычнай культуры. І тое, што ў яе нацыянальныя элементы пастаянна **«ўпляталіся»** элементы культуры іншых народаў, — не бяда яе, а яе вартасць. Бо гэта шліфавала яе грані, дапаўняла найважнейшымі кампанентамі, узбагачала шматвяковымі еўрапейскімі традыцыямі.

Нацыянальная культура толькі тады ззяе ўсімі фарбамі вясёлкі, калі яна здолела ўвабраць у сябе ўсё лепшае ад іншых народаў, нацыянальных культур, агульначалавечыя каштоўнасці. Часам, на пэўным этапе /напрыклад, у тым самым XVIII ст./, яна можа быць вельмі цесна знітавана, пераплецена і нават **«растворана»** ў культуры народа з больш старадаўнімі і моцнымі вытокамі і традыцыямі, трывала звязанага з найбольш прагрэсіўнымі тэндэнцыямі цывілізацыйных, культуралагічных, культуратворчых працэсаў. Так, пэўна, было і ў музычнай культуры беларускага народа, якая ў разглядаемую эпоху /як і значна раней/ найцесным чынам сплялася з музычнай культурай /і не толькі/ польскага народа. Гэта было абумоўлена тагачаснымі гістарычнымі ўмовамі і рэаліямі штодзённага жыцця.

Можна было б, напэўна, адзначыць і зваротную з'яву. Многія элементы польскага музычнага і тэатральнага жыцця XVIII ст. развіваліся менавіта ў гэтым рэгіёне, з якім звязана замацаваная ў XX ст. дзяржаўнасць беларускай нацыі.

Вядома, як зліваліся працэсы, характэрныя для музычнага жыцця беларускіх гарадоў, з агульнымі тэндэнцыямі развіцця польскай культуры: адбывалася ж гэта ў адным дзяржаўным утварэнні, якое аб'ядноўвала ў той час некалькі народаў. Менавіта гэта ўдалося ярка адлюстраваць В. Дадзіёмавай у сваёй кнізе.

На падставе вывучэння і аналізу значнай колькасці знойдзеных крыніц /пра іх мы пагаворым далей/ В. Дадзіёмава пабудавала ўсю цэласную канцэпцыю шматпланавай музычнай культуры, узноўлена цікавая і багатая рэтраспектыўная панарама музычнага жыцця беларускіх гарадоў у XVIII ст. І разгледжаны тут не толькі тыя найбольш вядомыя і значныя ў сферы музыкі і тэатра цэнтры /безумоўна, неадлучныя ад іх феадальных уладальнікаў/, дзякуючы любові да мастацтва і мецэнацтву якіх так бліскуча развіліся яркія асяродкі культуры, засяродзіўшы ўзоры архітэктуры, прыгожых мастацтваў — жывапісу, скульптуры, багацейшыя зборы кніг, нот, музычных інструментаў і, зразумела, прыцягнуўшы таленавітых людзей мастацтва/. Гэта перш за ўсё Нясвіж, Слонім, Гародня, Слуцк /пра іх найбольш звестак/, а таксама Шклоў, Віцебск, Магілёў, Мінск, Навагрудак, Дзярэчын /пра іх звестак значна менш/ і шэраг іншых, згаданых толькі эпізадычна /Ружаны, Жыровічы, Орша, Брэст, Свіслач, Ашмяны і інш./.

У выніку, відавочна, шматгадовых /бо аператыўна такую колькасць матэрыялаў немагчыма адшукаць/ і старанных пошукаў, даследавання крыніц, аналізу і абагульнення розных звестак пра гэтыя гарады аўтаркай выяўленыя разнастайныя формы музіцыравання, музычнага жыцця, шматлікія прозвішчы музыкантаў — кампазітараў, дырыжораў, сляды існавання разнастайных музычных капэл, асяродкаў музычнай адукацыі і іншых сведчанняў інтэнсіўных праяў музычнай культуры. Гэтыя звесткі леглі ў аснову метадалагічнай канструкцыі кнігі, абумоўшы назвы раздзелаў і падраздзелаў і, натуральна, іх канкрэтны змест.

Заўважу, што В. Дадзіёмава выявіла такую вялікую колькасць канкрэтных звестак, поўнае падрабязнае апісанне якіх магло б скласці шмат тамоў. Ёй давялося /зусім зразумелыя сучасныя цяжкасці арганізацыйна-фінансава-паліграфічныя, што ўзнікаюць перад кожным, хто спрабуе выдаць сваю працу/ адмовіцца ад больш падрабязных каментарыяў асобных прыводзімых ёю звестак, шырокага апісання шэрагу з'яў і асоб, абмежаваўшы сябе пераважна выкладаннем канкрэтных фактаў.

Абодва раздзелы з уступам /дзе разглядаюцца гістарычныя ўмовы беларускіх земляў, што ўваходзілі ў XVIII ст. у Рэч Паспалітую, а таксама характарызуецца частка даследаванай аўтарам літаратуры/ і заключэннем займаюць 130 старонак кнігі. Аднак больш за 70 наступных яе старонак займаюць вельмі важныя і істотныя дапаўненні. Сярод іх — 14 нотных прыкладаў /да таго ж, у **«асноўным»** тэксце кнігі, побач з ілюстрацыямі, ёсць яшчэ некалькі нотных, пераважна факсімільных, прыкладаў/ і значны, лікам 513 пазіцый, спіс літаратуры і крыніц. Вось менавіта тут мы бачым, як многа інфармацыйнай **«руды»** давялося **«перакапаць»** В. Дадзіёмавай, каб здабыць уключаныя ў кнігу звесткі. Тут і 280 друкаваных крыніц — кніг на беларускай, рускай і польскай мовах. Тут і шэраг нумароў газет /22 назвы/, выдадзеных на польскай мове. Тут і 93 пазіцыі крыніц з 11 архіваў Беларусі, Летувы, Украіны, Расіі, Польшчы, сярод якіх рукапісныя архіўныя дакументы на старапольскай, лацінскай, французскай, нямецкай, рускай мовах /інвентарныя вопісы гарадоў, палацаў, замкаў, касцёлаў і манастыроў, рэестры

# ІХНЯЯ МАЦІ — ЕФРАСІННЯ ПОЛАЦКАЯ

***Уяўленне аб манастыры, якое з дзяцінства склалася ў мяне з кніг ды кінафільмаў, было прыкладна такім: абавязкова — высокая непрыступная агароджа, абавязкова — жалезныя, з цяжкімі засовамі дзверы, у самім манастыры — абавязкова паўзмрок, ціша, прыгнечанасць, а яго насельнікі, вядома ж, пахмурныя істоты, непрыветныя да нас, тых, хто не носіць манаскага адзення. Гэтае ўяўленне трывала да таго часу, пакуль не давялося бліжэй пазнаёміцца з жыццём жаночага манастыра ў Полацку, таго самага, які быў заснаваны самой Ефрасінняй Полацкай. Жыццё ў ім аднавілася зусім нядаўна, падчас нашых агульных грамадскіх перамен.***

Па-першае, ніякай непрыступнай агароджы вакол манастыра няма. Не, яна павінна быць, але калі яе цяпер узвесці па гістарычных слядах /а як жа інакш рабіць у Полацку?/, то ў тэрыторыю манастыра трапяць два жылыя дамы, у якіх жывуць, здаецца, ці не дванаццаць сямей. Кватэры далёкія ад камфартабельных: адзін з дамоў — былая манастырская стайня. Таму жыхары, вядома ж, не супраць атрымаць новыя, з усімі выгодамі. Кажуць, нібыта ўжо і было нейкае афіцыйнае рашэнне па высяленню, але яно знікла пад сукном нейкага начальніка. І вось цяпер манахіні моляць Бога і просяць мясцовае начальства адшукаць тую паперу. А знайсці яе трэба. Хоць бы дзеля таго, каб тэрыторыя манастыра стала падобнай да манастырскай і каб палачане, якія не хочуць ведаць запаветаў **«не крадзі»**, не зразалі ў свае мяхі капусту з манастырскага агарода, не кралі бульбу, не ласаваліся морквай, агуркамі ды памідорамі. Гэткая вось суровая праўда жыцця, калі толькі гэта можна назваць праўдай, а не крыўдай.

Але раней было горш: келлі чатырнаццаці манахінь і паслушніц, якія першымі прыехалі сюды, напачатку знаходзіліся ў адным доме з кватэрамі людзей, далёкімі ад пачуццяў хрысціянскай маралі. Сёстрам даводзілася чуць і насмешкі, і кпіны, а то і брудную лаянку. Цяпер трохі лягчэй. Праўда, і палачане, турысты, якія наведваюць манастыр, адчуваюць сябе тут даволі ўпэўнена. Шматлікія фотаапараты экскурсантаў часта фіксуюць даволі кантрастную сцэну: групу турыстаў у шортах на прыступках царквы Ефрасінні, а дзе-небудзь збоку той самы аб'ектыў схопіць і постаць у чорным адзенні, з апушчанымі долу вачыма. І разлятаюцца, разлятаюцца па свеце здымкі, на заднім плане якіх постаці тых, што некалі раз і назаўсёды зрабілі выбар — служэнне Усявышняму. Служба гэтая — не з лёгкіх. Але каго гэта турбуе, каму трэба абыходзіць, апроч іх саміх?

... З маці Аляксандрай мы гутарым у Крыжаўздзвіжанскай царкве. Да вячэрняй службы застаецца яшчэ дзве гадзіны, пакуль што ў храме ціха, пуста. Маці Аляксандра на дзесяць гадоў маладзейшая за мяне, і ў мяне з цяжкасцю паварочваецца язык называць яе маці. На пачатку гутаркі я прашу прабачэння, калі з-за сваёй недасведчанасці задам нетактоўнае пытанне. У адказ — усмешлівы бляск вялікіх прыгожых вачэй:

— Нічога. Мы прывыклі.

Так, яны прывыклі і змірыліся не толькі з турыстамі, але і з частымі, паспешлівымі наведваннямі журналістаў, фотарэпарцёраў, кінааператараў. Экзотыка...

— Маці Аляксандра, цяжка вам у манастыры?

— Першы год тут было вельмі цяжка. Часам здавалася, што і цялесныя і духоўныя сілы пакідаюць. Памагла прападобная Ефрасіння. Прыйдзеш у яе храм, пастаіш, памолішся, папросіш падтрымкі, нават проста памаўчыш — і выйдзеш ад яе ўмацаванай у веры, у сваёй праўдзе. Прападобная дае нам сілы. Яна нам — за маці.

— Ефрасіння Полацкая шырока вядомая ў свеце сваёй асветніцкай дзейнасцю. Ці прадаўжае сённяшні манастыр яе ахвярную справу?

— Разумею, пра што вы кажаце і разумею, што гэтак павінна быць, бо на нас, хто пайшоў яе шляхам, ляжыць гэтая адказнасць перад Богам, перад самой прападобнай, перад людзьмі. Але пакуль што жыццё гістарычнага манастыра падымаецца з руін. На жаль, пакуль мы вымушаны дбаць больш пра гаспадарку дзеля таго, каб у будучым дзейнасць манастыра набыла асветніцкія рысы.

— Доўгі час Ефрасінню на нашай памяці называлі цемрашалкай, яе імя, як і імёны многіх Божых слуг, ганьбавалася. Цяпер — інакш. І ўсё ж для большасці з нас, свецкіх людзей, яна найперш вядомая гістарычная асоба, якая праславіла Полацк, нашу зямлю...

— А для нас яна — найперш святая. Мы яе ўспрымаем як чалавека, які самаахвярна служыў Богу і якога Бог абдарыў сваімі незлічонымі ласкамі. Тое, што яна зрабіла, як жыла, як памерла, магчыма было чыніць толькі пры вялікай Божай любові да яе. Бог слухаў і выконваў яе просьбы. Выканаў і яе просьбу-мару і прыняў яе душу менавіта ў Ерусаліме. А хіба тое, што да яе мошчаў з усіх канцоў свету едуць пілігрымы і многія атрымліваюць тут аздараўленне, духоўнае ўмацаванне, не сведчыць аб сіле яе святасці?

— Маці Аляксандра, даруйце за нетактоўнае пытанне, у вас ніколі не было жадання хоць бы на нейкі час змяніць чорнае адзенне на ярчэйшае, прыгажэйшае? Зрэшты, можаце не адказваць, калі вам гэта непрыемна.

Мая суразмоўніца ўсміхаецца прамяністай усмешкай, і я чамусьці пачынаю адчуваць сябе маладзей за яе.

— А хіба наша адзенне не прыгожае? — пытаецца яна і не чакае майго адказу, бо, відаць, адчувае, што мне не дадзена адчуць усю красу яе манаскага ўбору. — Не, ніколі за гэтыя гады мяне не вабілі іншыя колеры. Я з дзяцінства любіла чорны. Мой тата — святар. Дык я, калі была маленькаю, памятаю, апрану яго расу, стаю перад люстэркам і любуюся на сябе. Ён убачыць, насварыцца, а мяне ўсё адно як магнітам зноў яна прыцягвае. Разумееце, тыя, хто жыве тут, прыйшлі сюды невыпадкова, але з ласкі Божай, з Яго волі. Інакш мы проста не змаглі б вытрымаць усе выпрабаванні. Калі гэта зразумееце, то не будзеце ні шкадаваць нас, ні спачуваць нам, ні дзівіцца з нас.

... Не, дарагая маці Аляксандра, я не шкадую вас, а вось зразумець хачу. Усім нам гэтак не хапае жадання зразумець адзін аднаго. Калі б мы імкнуліся гэта зрабіць, то не было б ні дзікай барацьбы атэістаў з вернікамі, ні супярэчнасцяў

і каштарысы, прыходна-расходныя кнігі замкаў, касцёлаў, калегіумаў, бурсаў/.

У прылажэнні, акрамя вытрымак з архіўных дакументаў, што тычацца дзейнасці музычных бурсаў і двух нотных каталогаў /Жыровіцкага Васіліянскага /а не Базільянскага, як піша аўтарка/ манастыра і Гарадзенскага касцёла езуітаў/, знаходзіцца складзены аўтарам «Спіс музыкаў, што працавалі ў прыватнаўласніцкіх, вайсковых і царкоўных капэлах гарадоў Беларусі ў XVIII ст.». У ім названы 482 музыкі, іх імёны, прозвішчы /ці што-небудзь адно/, у большасці выпадкаў пазначаны спецыяльнасць і гады працы ў канкрэтнай капэле Нясвіжа, Слуцка, Слоніма, Гродна, Ружан, Дзярэчына, Шклова, Пінска, Жыровіч, Віцебска і інш. Адзін гэты спіс, які красамоўна сведчыць пра велізарны аб'ём праведзенай В. Дадзіёмавай даследчыцкай працы, заслугоўвае найвышэйшай адзнакі, бо адкрывае цэлы, невядомы дагэтуль свет музычнай культуры і з'яўляецца сапраўды яркім сведчаннем тагачаснай унікальнай насычанасці рознымі праявамі музычнага жыцця ў гэтым рэгіёне Еўропы.

Даючы ў цэлым вельмі высокую /лічу, заслужаную/ ацэнку рабоце В. Дадзіёмавай, неабходна сказаць пра некаторыя, хоць і нязначныя, недахопы.

Асноўныя два зыходзяць з таго, што В. Дадзіёмава ў большасці выпадкаў карысталася крыніцамі на польскай мове. У сферы яе ўплыву апынулася аўтарка кнігі — тут шмат паланізмаў. З другога боку, у рускім тэксце кнігі ёсць шэраг польскіх прозвішчаў, а часцей імёнаў, пададзеных у скажоным выглядзе. Напрыклад, прозвішчы шэрагу польскіх музыказнаўцаў, што прыводзяцца на с. 11, трэба было б, як гэта прынята ўжо даўно, пісаць бліжэй да іх сапраўднага гучання. Дарэчы, на той жа старонцы памылкова перакладзена назва кнігі Я. Проснака /гл. пазіцыю 234/: павінна быць «Обучающая Полигимния», Полигимния — муза духоўнай харавой песні. Польскія ж імёны аўтар прыводзіць то ў арыгінальным гучанні, то ў русіфікаваным. Сустракаюцца Казимеж і Казимир, Михал і Михаил, Миколай і Николай. Неабходная уніфікацыя. Лічу таксама няправільна пісаць Францишек /гэта пачэшску!/, а не Францишек, Героним, а не Хиероним /ёсць другі рускі варыянт — Иероним/, Лудовика, а не Людвика і да т. п.

Асабліва часта ў палоне паланізмаў знаходзіцца аўтар, прыводзячы прозвішчы з тытуламі ці тагачаснымі службовымі званнямі. Мабыць, трэба было даць іх рускае тлумачэнне /у дужках ці ў зносцы/. Напрыклад, вельмі часта сустракаюцца такія, як падскарбі, падкаморый, польны гетман ці пісар, падканцлер, маршалак /трыбунальскі ці іншы/, скарбнік, мечнік, стараста, кашталян, войт, канцлер, ваявода, ваяводжанка, біскуп, харугва /у сэнсе вайсковага ці іншага злучэння/, капланскі, назвы інструментаў — клавіцымбал, арганкі, альтоўка, басэтля, флейтроверс, басон і інш. Пажадана, каб заўвагі былі ўлічаны аўтарам пры перавыданні кнігі /чаго ад усяе душы жадаю/ ці пры выданні іншых матэрыялаў.

Кніга В. Дадзіёмавай, значная з'ява ў гістарычным музыказнаўстве, становіцца ў адзін шэраг з важнейшымі адкрыццямі ў гэтай галіне. Яна робіць гонар не толькі самому аўтару /на маю думку, аўтарка заслугоўвае за гэтую працу доктарскую ступень/, але і беларускаму музыказнаўству, будучы важкім унёскам у гісторыю нацыянальнай /не толькі музычнай/ культуры некалькіх народаў, запаўняючы ў пэўнай ступені прагалы ў гісторыі музычнай культуры польскага, беларускага, летувіскага народаў, інспіруючы вучоных іншых краін да правядзення ў сваіх даследаваннях аналогій з музычнай культурай «сваіх» народаў /што можа прынесці дадатныя вынікі хаця б на ўзроўні навуковых меркаванняў/. Шкада, аднак, што сучасныя неспрыяльныя для навуковых кантактаў абставіны, асабліва для шырокага міждзяржаўнага кнігаабмену, пазбаўляюць магчымасці многіх зацікаўленых асоб набыць такія цудоўныя каштоўныя кнігі, нават калі яны выдадзены на адной з так званых моў міжнацыянальных зносін /у дадзеным выпадку — на рускай/.

**Лешэк МАЗЕПА, прафесар**
*г. Львоў*

паміж рознымі канфесіямі. Можа, тады б і з вашага агарода бязбожнікі не кралі б гародніну, не ўзламвалі б замкі на і без таго небагатых манастырскіх складах. Праўда, цешыць, што ўсё ж ёсць і тыя, хто хоча шчыра дапамагчы вам. Прызнаюся, на гэту размову з вамі мяне падштурхнула другая размова — са старшынёй саўгаса «Белае» Полацкага раёна Яўгенам Шамшурам. Ён тады ўзгадаў, як яго рабочыя дапамагалі вам узараць і засеяць дваццаць гектараў зямлі, той зямлі, зірнуўшы на якую ён, бывалы гаспадар, раіў вам адмовіцца ад яе, бо для працы на ёй патрэбна шмат і шмат сілы, а ў вас яе гэтак мала. Але даруйце: мы зноў мераем нашымі, зямнымі меркамі, у вас яны іншыя.

Менавіта яны, гэтыя незразумелыя для большасці людзей сілы, дапамагаюць і вам, маці Аляксандра, і самай старэйшай жыхарцы манастыра 86-гадовай схіманахіні Серафіме, і пятнаццацігадовым паслушніцам Ленам з Наваполацка, і 82-гадовай ігуменні Ефрасінні вытрымліваць усе выпрабаванні і радавацца жыццю. Імя ігуменні сапраўды Ефрасіння, яна жыве манастырскім жыццём з чатырнаццаці гадоў і за ўсе гэтыя гады ні разу не адступілася ад абранага шляху...

«З божай волі», «з Божай дапамогай» — шмат разоў чула я гэтыя словы ў манастыры. За ўсё яны дзячаць Усявышняму, але пры тым не забываюцца дзякаваць і людзям. Таму крыху пазней маці Антонія, на чыіх плячах ляжыць адказнасць за ўсю манастырскую гаспадарку, ахвотна расказвала мне, як падтрымліваюць іх наваполацкія вытворчыя аб'яднанні «Палімір», «Нафтан», магілёўскі «Лаўсан», як даў зерня ды саломы для каня і пяці кароў калгас «Радзіма», як прыслаў у свой час тэхніку саўгас «Вясна», як заўсёды гатовы дапамагчы калгас імя Леніна /правадыр сусветнага пралетарыяту, напэўна, павярнуўся б у сваім маўзалеі, калі б даведаўся, як рухнула яго справа барацьбы з рэлігіяй/.

Так што, ёсць усё ж тыя, хто гатовы падтрымаць пяцьдзесят мужных жанчын у чорным ахвярным адзенні са спрацаванымі рукамі, з пахіленымі ў пакоры галовамі, прыцішанымі галасамі, бледнымі тварамі, з якіх, нягледзячы на ўсе выпрабаванні лёсу, часта сустрэне нас пагляд зычлівых, прыветных вачэй. Мне давялося ў той дзень шмат сустрэць гэтых зычлівых паглядаў, добрых усмешак, пасля якіх канчаткова разбілася маё ўяўленне дзяцінства аб непрыветнай і прыгнечанай атмасферы за манастырскімі сценамі.

Пабыць у манастыры і не зайсці ў Спаскую царкву?.. Маці Аляксандра, здаецца, шчыра ўзрадавалася маёй просьбе і адчыніла яе. На зямлі ёсць шмат цудаў. Адзін з іх — гэтая царква, храм святой Ефрасінні Полацкай. Пераступаючы яго парог, заўсёды шчымліва ўздрыгвае сэрца ў нейкім невядомым, невытлумачальным прадчуванні. У гэтым пачуцці заўсёды ёсць боль: бо ў царкву усё яшчэ не вярнуўся крыж Ефрасінні, бо, як казаў Уладзімір Караткевіч, апошнімі сполахамі дагараюць яе фрэскі. У царкве цяпер — рыштаванні, рэстаўратары ратуюць яе фрэскі, ратуюць храм ад разбуральнай працы часу. Разам з маці Аляксандрай мы падымаемся па вузкай стромкай лесвіцы да келлі святой Ефрасінні, але на ёй — замок. Маці Аляксандра разгублена і нібы вінавата разводзіць рукамі. Я супакойваю яе, а самой трывожна і сумна да гаркаты ў горле. Колькі разоў я была ў гэтай святыні, колькі разоў падымалася і па гэтай лесвіцы, па якой восем стагоддзяў таму хадзілі Яе ногі, колькі разоў цешыла сябе надзеяй, што нарэшце змагу пераступіць парог Яе келлі, той, дзе Яе рука выводзіла пры слабым святле літары, якія спляталіся ў словы, сказы, кнігі!.. І заўсёды мяне сустракаў замок. Не надышоў, значыць, яшчэ для мяне той час...

**Ірына ЖАРНАСЕК**

Культура

# І РАЗЫХОДЗІЦЦА ПА СВЕЦЕ ПРЫГАЖОСЦЬ...

***Само спалучэнне паняццяў 35-гадовага Наваполацка і музея выклікаюць у многіх усмешку. Гэта вам не Парыж і не Полацк, не Венецыя і не Браслаў. Тут каштоўныя экспанаты — бензін, нітрон, поліэтылен і г. д. Але, апрача гэтых прадуктаў матухны-хіміі, супрацоўнікі Наваполацкага краязнаўчага музея сабралі, не пабаюся сказаць, рэдкую калекцыю самабытных вырабаў народных майстроў.***

Збіралі не на гарышчах вясковых хат, а па нашых сучасных кватэрах. І выгляд у экспанатаў найноўшы, яны яшчэ зусім нядаўна выйшлі з-пад рук майстроў. А майстры жывуць і працуюць таксама ў маладым горадзе. Часам глядзіш на іх вырабы і, напраўду ж, цяжка даць веры, што мэбля з лазы, гладышы дзівосных абрысаў, міскі, кухлі, раскошныя вышыванкі, разныя вазонніцы нарадзіліся ў горадзе з яго паспешлівым і прагматычным рытмам жыцця. Зрэшты, усё гэта не толькі нараджаецца тут, але і разыходзіцца па кватэрах. Не толькі музей, але і людзі ахвотна набываюць вырабы, якія здольныя ўпрыгожыць любое памяшканне.

Заказы на выраб мэблі з лазы сыплюцца Міхаілу Гільнічу з розных бакоў, з блізкага замежжа таксама, набылі яе і музеі многіх гарадоў. Шырокі попыт мае дымчатая кераміка Валерыя Дунеўскага. Шмат ахвотнікаў набыць вышыванкі Зінаіды Беразанскай, на якіх знойдзеш і традыцыйны беларускі арнамент, і беларускія краявіды, і біблейскія матывы. Але майстрыха пакуль што не спяшаецца расставацца з імі. Вырабы Пятра Сурвілы, Вячаслава Шошына, Аляксандра Галгоўскага, Таццяны Мудровай, Валянціны Германенкі, Аляксандра Аляксеева, Любові Кулёвай заўсёды карыстаюцца попытам.

Ды адкуль жа іх столькі ўзялося ў Наваполацку, гэтых народных талентаў? Відаць, сакрэт вельмі просты, і ляжыць ён на паверхні. Таленавітыя людзі ёсць усюды, толькі не ўсюды іх заўважаць, заахвоцяць да працы ды пасля дапамогуць паказаць вынікі гэтай працы шырокаму свету. У Наваполацку, на шчасце, ёсць і адно, і другое, і трэцяе — дзякуючы супрацоўнікам усё таго ж краязнаўчага музея, якія арганізавалі клуб народных майстроў. Кіруе ім супрацоўніца музея Дзіяна Бароўская. 55 чалавек увайшлі ў гэты клуб, каб разам ладзіць выставы, вучыць свайму майстэрству іншых, удасканальваць сваю працу.

На «Славянском базаре» замежныя госці былі ў сапраўдным захапленні ад іх вырабаў і шмат чаго павезлі з сабой. А нядаўна наваполацкія майстры паказалі свае вырабы на юбілейным свяце Салігорска, аднагодка Наваполацка. Шахцёры і іх жонкі нізавошта не маглі паверыць, што усё тое, што яны пабачылі, можна зрабіць у наш час і ў нашых умовах. Раскупілі ледзьве не ўсё і гасцінна запрашалі прыязджаць яшчэ, бо многім жадаючым вырабаў не хапіла. Клуб неўзабаве едзе з новай выставай па запрашэнню ў Вялікія Лукі. Няхай і там падзівяцца на нашу прыгажосць.

Але, мабыць, самае прыемнае з усяго гэтага тое, што майстры не трымаюць свае сакрэты ў пячурцы, а ахвотна дзеляцца імі. Сёлета сярод тых, хто жадае навучыцца плесці мэблю з лазы, будзе праходзіць сапраўдны конкурс. Ад ахвотнікаў няма адбою на курсы да Міхаіла Гільніча, Аляксандра Галгоўскага, Зоі Ярашэвіч.

Хтосьці скажа, што ў наш час ды пры нашых магчымасцях трэба для ўсяго гэтага яшчэ і матэрыялы дзесьці браць? Безумоўна. І не надта гэта лёгка. Даходзіць часам да смешнага, калі, напрыклад, разьбяр вымушаны пісаць аб'яву, накшталт: «Мяняю гарэлку на драўніну ясеня альбо клёна».

Нядаўна ў клуб прыйшоў новы майстар — Алег Дзянісаў. Ён займаецца «лясной скульптурай», збірае рэдкія нарасты на дрэвах, асцярожна, каб не парушыць прыродныя рысы, апрацоўвае іх, і атрымліваюцца дзівоснай прыгажосці лямпы, падсвечнікі, жырандолі. Алег у будучым таксама будзе весці гурток пры музеі, а гэта значыць, што яшчэ некалькі чалавек набудуць здольнасць бачыць прыгожае вакол сябе і ствараць яго сваімі рукамі.

Гэтак вось і разыходзіцца яно па свеце: ад чалавека да чалавека, ад сэрца да сэрца. Прыгажосць уратуе свет? Напэўна. Калі толькі свет не адрыне, не адвернецца ад яе, не падмане сам сябе каштоўнасцямі другога кшталту.

**І. СТУДЗЕНЬСКАЯ**





*На здымках: гэтыя і многія іншыя прыгожыя рэчы нараджаюцца ў Наваполацку.*

# ЗБІРАЛЬНІК МОЎНАЙ СКАРБОНКІ

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ АКАДЭМІКА М. В. БІРЫЛЫ

***10 верасня ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае 70-годдзю з дня нараджэння акадэміка АН Беларусі Мікалая Васільевіча Бірылы. У пасяджэнні прынялі ўдзел навукоўцы інстытутаў акадэміі, выкладчыкі вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі, калегі і вучні вучонага. З успамінамі пра М. Бірылу, яго навуковую і грамадскую дзейнасць выступілі дырэктар Інстытута мовазнаўства член-карэспандэнт АН Беларусі А. Падлужны, супрацоўнікі Інстытута доктар філалагічных навук В. Лемцюгова, кандыдаты філалагічных навук А. Бакуновіч, А. Крывіцкі, В. Зялёнка, дацэнт Віцебскага педагагічнага інстытута Л. Вардамацкі, аспірантка С. Сачанка і іншыя. Прапануем увазе чытачоў слова пра М. Бірылу прафесара факультэта журналістыкі БДУ доктара філалагічных навук А. НАРКЕВІЧА.***

З Мікалаем Васільевічам я быў знаёмы з далёкіх ужо пасляваенных студэнцкіх гадоў. Ішоў 1948-ы. Мы, студэнты-першакурснікі, шчаслівыя і радасныя пасля паспяховай здачы летняй экзаменацыйнай сесіі, збіраемся ў навуковую экспедыцыю па вывучэнні мясцовых гаворак, жывой народнай мовы. Большасць з нас — члены дыялекталагічнага гуртка, работу якога арганізоўваў і праводзіў сектар дыялекталогіі Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. На пасяджэннях гурткоў і адбылася наша першая памятная сустрэча і знаёмства з маладым тады супрацоўнікам гэтага інстытута М. Бірылам, які стаў для нас сапраўдным сябрам і дарадцам. Праз доўгія гады працягваліся гэтыя сувязі і сумесныя экспедыцыі. Менавіта з іх, гэтых гурткоў і экспедыцый, і пачаўся наш шлях у навуку, у свет беларускай лінгвістыкі.

... Мікалай Васільевіч прайшоў доўгі і плённы шлях у навуцы — ад малодшага навуковага супрацоўніка да акадэміка, акадэміка-сакратара аддзялення грамадскіх навук АН Беларусі. У навуковым свеце М. Бірыла вядомы як выдатны вучоны-даследчык, які ўнёс найвялікшы ўклад у беларусістыку, сучасную навуку аб беларускай мове і мовазнаўстве. Дыяпазон яго творчых інтарэсаў быў шырокі і разнастайны: беларуская дыялекталогія, вусная гутарковая і літаратурна-пісьмовая мова; беларуская, усходнеславянская і славянская анамастыка. Пяру вучонага належыць звыш 100 навуковых прац. Буйнейшая з іх — трохтомная манаграфія «Беларуская антрапанімія». У гэтай фундаментальнай шматгадовай працы Мікалай Васільевіч упершыню ў беларускім мовазнаўстве глыбока і маштабна даследаваў гісторыю ўзнікнення ўласных імёнаў і прозвішчаў жыхароў Беларусі, пераканаўча давёў, што антрапонімы красамоўна, дасціпна і ярка адлюстроўваюць грамадскія адносіны паміж людзьмі, іх уяўленні пра навакольны свет, звычкі і побыт, сувязь з іншымі народамі свету. Па прозвішчах рэканструявана некалькі соцень слоў, якіх зараз няма ў слоўніках беларускай мовы. Такая праца не мае аналагаў у айчыннай лінгвістыцы. У навуковы зварот уведзены багаты матэрыял, цікавы не толькі для мовазнаўцаў, але і для гісторыкаў, этнографаў і прадстаўнікоў іншых навук. Але найбольш, вядома, выйграла мовазнаўства, бо анамастыка набывала значэнне сапраўднай скарбонкі моўнага багацця народа і яго паэтыкі. Работа атрымала высокую ацэнку навуковай грамадскасці нашай краіны і замежных даследчыкаў, у прыватнасці, у Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі. З цікавасцю былі сустрэты прысвечаныя беларускай анамастыцы тэарэтычныя даклады М. Бірылы на міжнародных з'ездах славістаў у Сафіі, Празе, Варшаве, Любляне. М. Бірылу па праву называюць адным з вядучых спецыялістаў славянскай анамастыкі.

Агульнавядомы таксама вялікі ўклад Мікалая Васільевіча ў дыялекталогію, з якой уласна і пачынаў свой шлях вучоны. Ён мае непасрэднае дачыненне да стварэння такіх значных калектыўных прац, як «Нарысы па беларускай дыялекталогіі», «Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі», «Дыялекталагічны атлас беларускай мовы», «Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак» і іншых. За падрыхтоўку комплексу даследаванняў па беларускай дыялекталогіі М. Бірылу ў ліку іншых сааўтараў была прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Немалыя заслугі М. Бірылы і ў распрацоўцы праблем сучаснай беларускай літаратурнай мовы, яе граматыкі і лексікалогіі. Пад яго кіраўніцтвам ствараліся «Руска-беларускі слоўнік грамадска-палітычнай тэрміналогіі», граматычны «Слоўнік беларускай мовы», даследаванне «Беларуская мова. Пытанні культуры мовы», двухтомная «Беларуская граматыка», завершана падрыхтоўка да выдання шматтомнага «Слоўніка мовы твораў Якуба Коласа»...

Вучоны зрабіў вялікі ўклад у беларускую акцэнталагічную навуку. Нядаўна выйшаў у свет /ужо пасмяротна/ старанна складзены аўтарам «Слоўнік націску ў беларускай мове». Слоўнік налічвае звыш 5 тысяч слоў розных лексічных і лексіка-граматычных разрадаў...

Надзённасць тэматыкі, глыбокае асэнсаванне фактаў і з'яў, творчы падыход да праблемы, грунтоўнасць і навізна вывадаў і абагульненняў — вось што ўласціва працам М. Бірылы.

Шматгранная і разнастайная была і грамадская дзейнасць вучонага. Намеснік старшыні міжнароднай камісіі па агульнаславянскім атласе пры Міжнародным камітэце славістаў, член міжнароднай камісіі па славянскай анамастыцы, галоўны рэдактар часопіса «Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук», член рэдакцыйных калегій шэрагу навуковых зборнікаў, рэдактар многіх прац беларускіх мовазнаўцаў — вось беглы пералік грамадскіх абавязкаў і даручэнняў, якія даводзілася яму выконваць у розныя гады сваёй працы. Нельга не сказаць пра такую яго характэрную рысу, як сапраўды бацькоўскі клопат пра моладзь, будучую навуковую змену. З-пад «крыла» Мікалая Васільевіча выйшла звыш 20 кандыдатаў навук, некаторыя з якіх маюць ужо і доктарскія дыпломы. Ён быў чалавекам багатай душы, чулым, спагадлівым да людзей і такім назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

З пошты "ЛіМа"

# ТАЛЕР-кавыя КЛОПАТЫ

Я тугадум. Ну, што ж зрабіць, калі так яно ёсць. Не раз і не два чытаў я пра тое, што нашы родныя беларускія грошыкі павінны абавязкова называцца «талерамі» /не «талеркамі», а «талерамі»/. А чаму — ніяк не ўцямлю. Праўда, былі калісьці такія грошы — на чэшскай зямлі іх прыдумалі недзе ў XV стагоддзі, а назву далі ім немцы. І пайшлі яны, тыя талеры, гуляць па свеце — не раўнуючы, як сённяшнія даляры. У Польшчу пад назвай «таляры» яны трапілі ці то ў 1528, ці ў 1564 годзе. Але ў Вялікім княстве Літоўскім нават у 1588 годзе сваімі ўсё яшчэ лічылі старадаўнія рублі. Чытаю я ў «Літоўскім Статуце» артыкул другі дзесятага раздзела і бачу: «Уставуем цену звером диким, которое бы через кого было убито у чужой пушчы: за зубра — дванадцать рублей грошей, за лося — шесть рублей грошей; за оленя або за ланю — шесть рублей грошей; за медьведя — тры рубли грошей; за вепра або за свинью — рубль грошей; за сарну — копу грошей; за рыся — три рубли грошей; за соболя — два рубли грошей; за куну — полкопы грошей». Усё гэта на старонцы 270-й апошняга факсімільнага выдання.

Мабыць, адсталы быў Леў Сапега, што не хацеў паважаць чужыя талеры... А можа, ён усё ж такі ведаў, як у мінулыя часы ўмелі шанаваць рублі нашых продкаў? І калі сёння хтосьці не надта верыць, то хай прачытае ў летапісах пра тое, што зрабілі татары пасля перамогі над Вітаўтам на рацэ Ворскле: «И цар Тимиртуклуи поидет под Киев, и стоял под Киевом тры дни и Кияне дали за себе окуп тры тысечы рублев Литовских» /В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай /крыўскай/ кнігі. — Коўна, 1926, с. 130 і 224/. Адбылося гэта ў **1399** годзе, калі талераў яшчэ, здаецца, ні адзін астролаг не свеце не прадбачыў. Вось як шанавалі татары літоўскія рублі!

А можа, нам няёмка, што яны сёння такія дохлыя і нічога не вартыя? Хоць зубр і красуецца на сторублёвай паперцы, мядзведзь — на пяцідзесяцірублёвай, алень — на дваццаціпяцірублёвай. Але я сёння чамусьці не ўпэўнены, што аленя можна купіць нават і за дваццаць пяць рублёў /а не ўсяго толькі за шэсць/. То, можа, і сапраўды лепш, чакаючы больш ласкавых часоў, прыдумаць хоць якую — хай сабе і талерачную — назву, абы не так было сорамна перад памяццю продкаў?

Людзі добрыя, памажэце мне разабрацца!

**Уладзімір КАЗБЯРУК**

# А Ў АСТАТНІМ, ЦУДОЎНАЯ МАРКІЗА...

*(Пачатак на стар. 5)*

б магла стрымаць разлівы Прыпяці па ўсёй яе даўжыні, — няма. Па-першае, не хапае пакуль што сіл і сродкаў, каб яе пабудаваць, а, па-другое, яшчэ няма і такога праекта. Зараз урад даручыў нашым вучоным распрацаваць яго. Дарэчы, абяцае фінансаваць яго Сусветны банк, які апошнім часам выказвае цікавасць да нашых экалагічных праблем. Вы, мабыць, ведаеце, што нядаўна ў Мінску адбылася міжнародная канферэнцыя па экалагічнай стратэгіі Беларусі. Адзін з арганізатараў гэтай канферэнцыі — той жа Сусветны банк. Яго спецыялісты выступілі на ёй з цікавымі дакладамі, у аснову якіх былі пакладзены дадзеныя, здабытыя дзвюма экспедыцыямі, што працавалі на Беларусі паўтара года.

Дык вось, па просьбе прадстаўнікоў Сусветнага банка днямі мы разам на верталёце наведалі некаторыя раёны Палесся, пацярпелыя ад паводкі. Уражанне засталося самае цяжкае. Уявіце сабе сотні гектараў зямлі, з якой вада нібы змыла ўсе фарбы, вынішчыла ўсё жывое. Там, дзе расла бульба,— гнілое месіва, такі ж малюнак на збожжавых палетках. Сумны выгляд маюць многія вёскі, дзе паводка падыходзіла пад самыя вокны.

**— Як жа там зараз могуць жыць людзі?**

— На Палессі жывуць вельмі добрыя, працавітыя людзі, якія не губляюць прысутнасці духу пры самых цяжкіх выпрабаваннях. Вось і нас сустракалі бадзёрымі ўсмешкамі, ва ўсякім разе ніякай панікі, ніякага адчаю на тварах мы не бачылі.

**— Яшчэ б — нешта паказваць перад наехаўшым начальствам і замежнымі гасцямі! Калі гэтыя мясціны наведваў Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч з міністрамі, мае калегі-журналісты таксама пісалі пра бадзёры настрой пацярпелых. Што і казаць, прывучаны наш народ, асабліва ў глыбінцы, да гэткай рабскай пакорлівасці...**

— Я не думаю, што, нягледзячы на вельмі цяжкае становішча, якое тут склалася, ёсць нейкія падставы ўпадаць у адчай. Урад робіць усё, каб хутчэй нармалізаваць сітуацыю, дапамагчы людзям, трапіўшым у бяду. З дзяржбюджэту выдаткаваны 21 мільярд рублёў, мы адразу падключылі да аказання дапамогі мясцоваму насельніцтву Белкаапсаюз, міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, Міністэрства гандлю, штаб грамадзянскай абароны. У пацярпелыя раёны былі тэрмінова завезены мука, цукар, крупы, іншыя прадукты, рознае электраабсталяванне /калі пачалася паводка, электраэнергія была адключана, ды стыхія знесла слупы, парвала правады — усё гэта зараз ужо адноўлена/.

**— А бульбу, гародніну? Людзі на вёсцы жывуць жа ў асноўным з агародаў.**

— Усё гэта таксама завозіцца. Толькі ў адзін Столінскі раён трэба будзе завезці 70 тысяч тон насеннай бульбы, не кажучы ўжо пра тое, што трэба будзе забяспечыць людзей бульбай на зіму.

**— Ці многа загінула ў час паводкі жывёлы?**

— Буйной рагатай жывёлы не загінула ніводнай галавы, толькі, мне расказвалі, на адной ферме патанула некалькі парасятак. Жывёла ўся была выведзена на дарогі, узгоркі.

**— А чым яе кармілі?**

— Тым, што нарыхтавалі на зіму.

**— Але ж, Няфодзій Адамавіч, што маглі ў ліпені ўжо нарыхтаваць на зіму? Сена з першага ўкосу? Дык і яго ж, відаць, змыла. Бульбу яшчэ не капалі, сілас калі і заклалі, дык яго, мусіць, затапіла.**

— Кармы падвозілі з гаспадарак, якіх не затапіла паводка. Людзі дзяліліся ўсім, чым маглі.

Што нас яшчэ асабліва непакоіць у сувязі з гэтым стыхійным бедствам, дык гэта небяспека ўзнікнення розных інфекцыйных хвароб. Вада пакінула пасля сябе шмат гнілі і цвілі, розных атрутных грыбоў. Гэта асяроддзе, у якім добра сябе адчуваюць розныя мікробы і бактэрыі. Вы, відаць, чулі, што Беларусь звярнулася ў ААН з просьбай аказаць дапамогу раёнам, якія пацярпелі ад паводкі. Ужо падключылася да гэтай справы міжнародная арганізацыя Чырвонага Крыжа, якая на мінулым тыдні даставіла ў гэтыя раёны шмат разнастайных лекаў, а таксама ветэрынарныя прэпараты.

Так што агульнымі намаганнямі з бядой мы справімся.

**— Дзякуй, Няфодзій Адамавіч, за гутарку.**

**Міхась ЗАМСКІ**

**P. S.**

**Ведаючы нашыя парадкі, «мабільнасць» нашай выканаўчай улады, я, прызнацца, з пэўным скепсісам успрыняў абмаляванае Н. Гурыновічам становішча з аказаннем дапамогі пацярпелым ад паводкі раёнам. Пазваніў у Столін, пагутарыў з чалавекам, які займае ў раёне досыць адказную пасаду і які даў згоду задаволіць маю цікавасць да мясцовых спраў толькі пры ўмове ананімнасці /што ж, яго можна зразумець/. Вось што я пачуў. Пакуль што нейкай прыкметнай дапамогі дзяржавы ў Столінскім раёне не адчуваецца. Цукар насельніцтву не атаварвалі яшчэ за ліпень. Муку, праўда, у некаторыя сельскія магазіны завезлі, але атрымалася так, што хто ўхапіў цэлы мех, а каму не дасталося нічога. З суседніх раёнаў завезлі бульбу на продаж — па 150 рублёў за кілаграм, ды людзі адмаўляюцца за такую дарагую цану яе купляць. Праўда, прайшла пагалоска, што ў вёсках, дзе ад паводкі загінулі ўсе пасевы, на кожную сям'ю выдадуць па паўтоны бульбы, але калі тое будзе, ніхто не ведае. З многіх сем'яў мужчыны паехалі ў суседнія раёны зарабляць сабе бульбу, гародніну. Горш адзінокім старым, пра якіх няма каму паклапаціцца. Але ёсць і прыемныя навіны: у некаторых вёсках пенсіянеры атрымалі гуманітарную дапамогу — гумавыя боты і ватоўкі. Вось такія весткі са Століна.**

**Так атрымалася, што толькі я вярнуўся дахаты з Дома ўрада, дзе гутарыў з Няфодзіем Адамавічам, як пачуў па радыё інфармацыю, якая таксама ўнесла пэўныя карэктывы ў некаторыя яго сцвярджэнні. Я маю на ўвазе пачуты ад Н. Гурыновіча аповяд пра тое, што ў раёнах, якія пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, сяляне цяпер спажываюць са сваіх прысядзібных участкаў толькі чыстыя прадукты. Паводле ж радыёінфармацыі, апошнімі праверкамі спецыялістаў было выяўлена, што ў мясе, малацэ, бульбе, гародніне, атрыманых на асабістых прысядзібных участках, утрыманне радыенуклідаў у тры-чатыры разы перавышае норму.**

**Адным словам, атрымалася, як у вядомай песні: «А в остальном, прекрасная маркиза, все хорошо, все хорошо...», хоць высвятляецца, што і «в остальном» справы благія.**

**М. З.**

***У горадзе была імжа. То ішоў, то сціхаў дробны, па-асенняму назойлівы і калючы дождж, які сеяўся з нізкіх, абложных хмараў.***

***— Слухай, а ці можа быць буржуазны нацыяналіст у дзіравых туфлях? — спытаў я ў аднакурсніка Алеся Разанава, паказаўшы на свой абутак, у якім падэшвы набывалі ўсё большую аўтаномію ад сваіх вярхоў.***

***Сябра, з якім мы даволі шпарка абміналі лужыны, сумнавата ўсміхнуўшыся, не стаў абмяркоўваць такую «глабальную» тэму. Уражаныя «ўрачыста-прадстаўнічым» прыёмам нашых персон у рэктара БДУ Сеўчанкі, спакваля асэнсоўваючы чутае і бачанае, з нейкай палёгкай і поўнай няяснасцю свайго бліжэйшага лёсу мы моўчкі крочылі ў свой інтэрнат на Паркавай магістралі. Было гэта роўна 35 гадоў назад, у кастрычніку 1968 года. З якой жа нагоды запрашалі нас на такую «высокую» сустрэчу?***

# «НАШЫ ЛЮДЗІ САЧЫЛІ ЗА ВАМІ...»

## ЗГАДКІ НАЦЫЯНАЛІСТА 1968 ГОДА

...ЗНОЎ і зноў вяртаюся ў сваё студэнцкае юнацтва, прыгадваю тыя няпоўныя тры гады, якія выпала пражыць у сталіцы. Маладосці ўласціва безаглядная рашучасць, якая не надта сябруе з халодным аналітызмам, рафініраваным прадбачаннем камфортных вынікаў. Таму яна — і такі часты выклік формуле заспакоенасці — «абы ціха». Так было і тым кастрычніцкім днём 68-га. У адным з інтэрнацкіх пакояў сабралася чалавек дваццаць — пераважна студэнтаў старэйшых курсаў нашага факультэта. Прычына збору: абмеркаванне становішча выкладання дысцыплін на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры, дзе ўсе прадметы, за выключэннем нацыянальнай мовы і літаратуры, даюцца па-руску, у тым ліку — і гісторыя Беларусі. Склалі ў выніку гэтага міні-сходу кароткі зварот да кіраўніцтва рэспублікі, у якім прасілі дазволу на тое, каб нам выкладаліся прадметы /за выключэннем спецыяльных дысцыплін — вайсковай падрыхтоўкі і рускай мовы і літаратуры/ па-беларуску. Пад тэкстам гэтага звароту падпісаліся на факультэце некалькі соцень чалавек. У ліку першых — аўтар гэтых радкоў, а таксама Алесь Разанаў і Леў Барташ. Пазней нас траіх /усе — аднакурснікі/ і пачнуць цягаць па розных інстанцыях. Падпісаныя просьбы меліся перадаць у ЦК, непасрэдна самому Машэраву. Аднак не паспелі і пераступіць той высачэзны парог, як пачалося...

Цэлую восень, да самай зімовай сесіі, праходзілі камсамольскія сходы на факультэтах, дзе ўсіх удзельнікаў згаданай ініцыятывы кляймілі ганьбай, як «буржуазных нацыяналістаў» /гэта за тое, што сціпла хацелі папрасіць яго Вялікасць ЦК на адзіным ва ўсёй Беларусі — ледзь не музейным — беларускім аддзяленні вывучаць агульныя прадметы на роднай мове/. Нас выклікалі ў камітэт камсамола універсітэта, дзе кіраўніцтва паставіла пытанне аб выключэнні траіх галоўных удзельнікаў гэтай страшэннай антыдзяржаўнай акцыі з радоў камсамола. Але нечакана для нас большасцю галасоў было прынята наступнае рашэнне: аб'явіць кожнаму строгую вымову з занясеннем ва ўліковую картачку. Ішло «разбірацельства» нашых дзеянняў і ў дэканаце філфака, дзе перапалоханыя выкладчыкі пыталіся: «Вы што — супраць Савецкай улады?» Некаторыя з іх баяліся з намі нават вітацца, хоць да гэтай падзеі дружалюбна падавалі руку, цікавіліся ў нас планамі на будучае. Адчувалася, што за кожным нашым крокам пільнуе нядрэмнае вока. А што гэта было сапраўды так — сведчаць факты.

НЕДЗЕ адразу ж пасля таго, як не далі ходу нашаму звароту «наверх», мы ўтраіх — Алесь Разанаў, Валянціна Коўтун і я — паехалі начным цягніком на Гродзеншчыну, у Зэльву, да апальнай, ашальмаванай, але нязкоранай пакутніцы Ларысы Антонаўны Геніюш. Раніцай мы былі ў яе прыветнай хаціне, дзе гаспадыня разам з мужам Іванам Пятровічам частавала нас, добра згаладалых з дарогі, слухаючы пра тое, што адбываецца ў нашым «храме» навукі. Геніюшы расказвалі нам пра свае незабыўныя «падарожжы» па «архіпелагу ГУЛАГ», Ларыса Антонаўна чытала новыя вершы, у якіх асабіста перажытае было так горача знітавана з лёсам Бацькаўшчыны. На развітанне, на ўспамін пра знаёмства яна падаравала кожнаму з нас па фотаздымку сваёй пражскай маладосці з надпісам-пажаданнем. Разам з ім я атрымаў і вытканы на кроснах, са спрадвечна беларускімі ўзорамі, каляровы льняны пояс.

Літаральна праз некалькі дзён Разанава, Барташа /хоць ён і не быў у Зэльве/ і мяне выклікалі проста з лекцый у рэктарат. Глянуўшы на тых, хто тут сабраў нас на допыт, чамусьці адразу ж прыгадаліся з прачытанага сцэны судоў сярэднявяковай інквізіцыі. Усе — дужа сур'ёзныя, змрочныя, надзьмутыя, быццам нехта іх вельмі ж моцна пакрыўдзіў ці абразіў навек. Пасыпаліся, як гарох з торбы, адно за адным пытанні: «Хто вас арганізаваў на гэта?», «Хто падбухторшчык гэтага мерапрыемства?», «Хто кіраваў вашай арганізацыяй?», «Назавіце імёны выкладчыкаў, якія штурхалі вас на такі ўчынак?»... І раптам: «Хто дазволіў вам ездзіць да Геніюш? Вы ведаеце, што гэта — нацыяналістка!? Нашы людзі сачылі за вамі, нам усё вядома!»

Абураны рэктар крычаў: «Гэта ўсё развёў там на філфаку яшчэ Ларчанка /маецца на ўвазе прафесар Міхась Рыгоравіч Ларчанка, які пэўны час быў дэканам і карыстаўся павагай і любоўю студэнтаў. — **В. Я.**/, я даўно гаварыў, што яго патрэбна было звольніць з работы!» Людзі з органаў, на высокіх нотах, з металам у голасе ўсё дапытваліся, пагражаючы: «Прызнавайцеся, хто ваш кіраўнік? Вы знаеце, што за гэта павінна вам быць!» Нашы адказы былі сцішана-лаканічнымі: «Мы самі арганізавалі збор подпісаў, ніхто намі не кіраваў». І гэта была праўда, нам не трэба было лаўчыць і выкручвацца.

«Выпусціўшы пару» ў першыя мінуты «чысцілішча», прысутныя /а іх было, калі не памыляюся, чалавек дзесяць/ пачалі крыху спакайней распытваць кожнага з нас пра бацькоў, пра нашы мясціны, адкуль мы родам. Якім вялікім было іх здзіўленне, калі я паведаміў, што родам з Гомельшчыны, сын ветэрана Вялікай Айчыннай вайны, афіцэра Савецкай Арміі, які пасля чарговага масавага скарачэння Узброеных Сіл краіны зімой 1955 года дэмабілізаваўся і прыехаў з сям'ёй на сваю радзіму. Мае сябры былі з раёнаў былой Заходняй Беларусі /Брэсцкай і Гродзенскай абласцей/. Адразу ж пачуўся гоман: «Як можа быць, вы ж — не заходнік, і пайшлі на такое». І тут я пачаў выразней усведамляць стаўленне да людзей, народжаных у заходніх раёнах Беларусі, аб чым краем вуха чуў раней. Аказваецца, што і ў самым канцы 60-ых гадоў, пры такім «звышінтэрнацыяналісце», як Машэраў, якога некаму сёння хочацца паказаць свяцейшым за Папу Рымскага, па-ранейшаму з падазронасцю глядзелі на выхадцаў з былых «крэсаў усходніх». Невыпадкова адзін з маіх «экзаменатараў», ледзь не спачувальна, з дакорам сказаў: «Ну няхай бы яны /паказаўшы рукой на маіх сяброў. — **В. Я.**/ вытваралі гэткае, а вы?»

Зімой 1969 года мяне і Алеся Разанава выключылі з універсітэта. А было зроблена «сіе дзейства» па класічнай схеме савецкай вышэйшай школы. Трэба сказаць, што да гэтага мы былі з Разанавым выдатнікамі вучобы, нашы партрэты віселі на факультэцкай Дошцы гонару. Апошнюю ж для нас сесію на трэцім курсе здаваць давялося з вялікімі цяжкасцямі. Прадузятасць, насцярожанасць і скіраванасць выкладчыкаў на тое, каб нас «заваліць», адчувалася амаль на кожным экзамене. Замест ранейшых «пяцёрак» з цяжкасцю выбіваліся «чацвёркі» і «тройкі». І ўсё ж, нягледзячы ні на што, залікі і экзамены былі здадзены. Аднак не ўсе... Заставаўся яшчэ такі спецыфічны прадмет, як вайсковая падрыхтоўка. Вось на ім «ваякі» і здолелі здзейсніць тое, што патрэбна было зацікаўленым асобам.

Падпалкоўнік Шчарбіна /не ведаю, мо ён стаў пасля ўдала праведзенай супраць «ворагаў-нацыяналістаў» аперацыі генералам?/ даў нам заданне: разабраць і сабраць аўтамат Калашнікава, іншыя віды зброі за тую колькасць мінут, якія адведзены нарматывамі. Мы ж, вядома, на гадзіннікі не глядзелі, спяшаючыся выканаць заданне як мага хутчэй. Падпалкоўнік фіксаваў: «Не ўклаліся ў час. Залік не магу паставіць».

Вось гэтага і хаціла, каб аформіць па ўсіх правілах наша выключэнне з ВНУ. Такім чынам, афіцыйна было засведчана, што мы не можам быць у ліку студэнтаў не па нейкіх там палітычных ці іншых матывах, а па той толькі бяскрыўднай прычыне, што маем запазычанасць па «ваенцы».

ПАСЛЯ зімовай сесіі ў Мінску, калі загад аб маім выключэнні ўступіў у сілу, я напоўніцу адчуў моц выказвання «быць выкінутым на вуліцу». Паўстала трывіяльнае і вечнае, як свет, пытанне: «Што ж рабіць далей?»

Другі раз я стаў студэнтам дзякуючы, у першую чаргу, выдатнаму чалавеку, народнаму паэту Беларусі Максіму Танку, які тады быў старшынёй праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі і вёў рэй на пасяджэннях Вярхоўнага Савета рэспублікі. Да Яўгена Іванавіча, у Саюз пісьменнікаў, я прыйшоў не адразу. Перад гэтым з Алесем Разанавым мы зрабілі зацяжны рэйд на сталічных паліклініках, праходзячы медагляды і рыхтуючы адпаведныя паперкі для далёкай паездкі... у Сібір. Так, іменна туды вырашылі мы падацца ў адной з брыгад, якая фарміравалася ў Мінску. Ужо ішлі канкрэтныя перамовы з вярбоўшчыкамі, якія былі згодны ўключыць нас у склад сваёй вандроўнай брацціі. Але недзе перад самым ад'ездам хтосьці параіў нам звярнуцца да Танка. Памятаю, як упершыню нясмела зайшоў у ягоны кабінет, у якім адразу ж адчуў прыязнасць, шчырасць і нейкую вельмі беларускую, лагодную, як Нарач у пагодлівы дзень, дабрыню душы чалавека, нераўнадушнага да лёсу нейкага там студэнціка. Яўген Іванавіч уважліва пацікавіўся маім становішчам і абяцаў зрабіць усё, што ў яго сілах, каб я і далей змог працягваць вучобу. Пры мне ён пазваніў міністру вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі Мяшкову, папрасіў яго разабрацца з маёй справай і паспрыяць яе станоўчаму вырашэнню. Міністр, як я зразумеў, паабяцаў. Але нездарма кажуць: «Абяцанкі — цацанкі, а дурню радасць...»

Два месяцы, амаль з дня ў дзень, давялося мне абіваць парогі міністэрства, шнуруючы з самай раніцы ў прыёмную, каб даведацца, як жа ідзе маё аднаўленне ў студэнцкіх правах. На пытанне, ці ёсць нейкі адказ на маю пісьмовую просьбу, чулася адзінае: «Прыходзьце заўтра», альбо «Зайдзіце праз некалькі дзён», ці «Ведаеце, таго чалавека, які займаецца вашай справай, зараз няма, ён знаходзіцца ў камандзіроўцы...» Адказы, як правіла, па-сакратарску элегантныя, на «изысканной» мове, так распаўсюджанай у сферах, дзе мае наіўныя мроі адчувалі сябе жабракамі ў панскіх гмахах-палацах.

Яшчэ неаднойчы давялося заходзіць мне да Максіма Танка, які імкнуўся зрушыць з месца мой клопат, як той воз, што загруз у міністэрскіх калдобінах. Ішло моцнае тармажэнне ўсемагутных сіл, нехта дужа стараўся, каб усё засталося так, як імі было ўжо спланавана і здзейснена. А між тым — час ішоў. Стыпендыі больш не атрымліваў. У інтэрнаце жыў на «птушыных правах». Дома пра мае «подзвігі» не ведалі, вядома. Просьбаў да бацькоў-калгаснікаў і сігналаў «SOS» я не слаў і не збіраўся рабіць гэтага. У часе адной з чарговых сустрэч у Саюзе пісьменнікаў Яўген Іванавіч распытаў мяне пра маё неўладкаванае жыццё-быццё і, як былы падпольшчык, які добра зведаў класічную музыку пустога жывата, гледзячы на мой змарнелы воблік, сказаў: «Напішыце заяву на маё імя, як Старшыні Вярхоўнага Савета, з просьбай аказаць вам дапамогу». Пасля таго, як я зрабіў гэта, ён прапанаваў: «А зараз едзьце ў Вярхоўны Савет /пры гэтым Яўген Іванавіч назваў і паверх, і нумар пакоя, у які мне трэба звярнуцца/ і атрымайце там грошы». На развітанне ўсміхнуўся і жартаўліва-весела падміргнуў: «Выпіце і за мяне чарку віна з хлопцамі.»

Атрымаўшы недзе з паўсотні рублёў /а гэта было больш за тагачасную стыпендыю/, свет здаўся мне не такім ужо і змрочным...

У АДЗІН з зімовых вечароў вялікім гуртам праводзілі на вакзал Алеся Разанава, які ехаў працягваць вучобу ў Брэсцкі педінстытут, чаму нямала паспрыяў разам з Танкам У. Калеснік. Працуючы ў мясцовым інстытуце, Уладзімір Андрэевіч меў устойлівы, надзейна зароблены аўтарытэт. У той час рэктарам быў прысланы з Мінска малады літаратуразнаўца Сяргей Адамавіч Гусак, да якога на прыём па просьбе Калесніка я і трапіў, прыехаўшы ў Брэст, калі Разанаў ужо вучыўся там /а я ўсё яшчэ «вісеў у паветры»/. Распытаўшы ў мяне, акрамя іншага, і пра тое, адкуль я родам, Сяргей Адамавіч і параіў мне прасіць аформіць міністэрскіх чыноўнікаў перавод на сваю Гомельшчыну. Ён шчыра, без афіцыйнай позы, прызнаўся: «Ведаеце, я ўзяў бы і вас, але на мяне і так ужо некаторыя касавурацца, што прыняў Разанава. Едзьце ў Гомель, там вам будзе, я думаю, не горш, чым тут». Добрыя ўспаміны засталіся ў мяне пра гэтага адкрытага чалавека, руплівца роднага слова, які, на жаль, неўзабаве /так заўчасна, у 39 год!/ памёр ад хваробы веку — рака.

Не магу забыць і пра гасціннасць інтэлігентнай, немітуслівай сям'і Калеснікаў, хоць спраў у той час ва Уладзіміра Андрэевіча было процьма: на яго рабочым стале ляжалі аркушы карэктуры вялікага даследавання для «Полымя», ішла поўным ходам складаная сумесная праца з Янкам Брылём і Алесем Адамовічам над унікальнай кнігай «Я — з вогненнай вёскі», шмат было розных выкладчыцкіх клопатаў...

Нарэшце, у канцы сакавіка, з дазволам на працяг вучобы я ехаў з Мінска ў Гомель у педінстытут, у якім сустрэў новых сяброў, дзе знайшоў падтрымку і спагаду як сваіх равеснікаў, так і выкладчыкаў.

Той жа вясною інстытут быў пераўтвораны ва універсітэт, які ўзначаліў Уладзімір Аляксеевіч Белы. Да мяне ён адносіўся прыхільна, выказваючы сваё разуменне, падтрымліваў маральна, прапаноўваючы працягваць вучобу далей — у аспірантуры. Пра гэтага — шырокай рускай душы чалавека — у мяне засталіся самыя найлепшыя ўражанні.

Жыццё ўваходзіла паступова ў нармальнае рэчышча. Хмары, што густа ўсцілалі мінскае неба, у Гомелі нібыта некуды сплылі за нябачны далягляд. Хоць усё было, безумоўна, не так ужо і ідылічна, як магло здацца якому-небудзь пільнаму староннаму воку. А гэтае неадступнае вока, што сурова, па-янычарску цікуе за ўсім беларускім, я тут займеў адразу ж пасля прыезду — і на ўсе наступныя гады.

**P. S. З гадамі ўсё часцей думаеш банальна: заўжды было рознае, ёсць яно сёння і будзе заўтра. Ва ўсе часы не было адбою, па словах Твардоўскага, ад «краснобая-подлеца, молчаливого пройдохи...» Хоць увогуле і ўсе людзі, і ўсе народы варты прыстойнага, светлага жыцця. Таго жыцця, у якім не плююць у той калодзеж, з якога п'юць ваду, не здзекуюцца з роднага слова і памяці продкаў, не праводзяць рэферэндумаў з пытаннем: «Ці трэба, каб родная мова была дзяржаўнай?» Гэта тое ж самае, што вынесці на рэферэндум пытанне: «Ці трэба шанаваць родную маці, якая цябе ўзгадавала?!»**

**Давайце ж не апусцімся да такога ўзроўню, паважаныя таварышы і спадары, панове і «господа». Будзем жа, як казаў неўміручы Янка Купала на зары гэтага шалёнага веку, на самай справе «людзьмі звацца».**

**Віктар ЯРАЦ**

Імя таленавітага беларускага паэта, драматурга і празаіка Тодара Лебяды сёння ў Беларусі амаль невядомае. Праўда, у 1991 годзе кааператыў «Адраджэнне» ў Мінску ажыццявіў факсімільнае выданне яго паэтычнага зборнічка «Песні выгнання», які ўбачыў свет у 1944 годзе. Змясціў восем вершаў з гэтага зборніка і часопіс «Крыніца» /N 10, 1991 г./. Трохі ўспомніў пра пакутніка сталінскіх рэпрэсій пісьменнік Барыс Сачанка ў сваёй кнізе «Трэцяе вока». Вось, бадай, і ўсё. Дык хто ж такі Тодар Лебяда?

У 1960 годзе ў слонімскай раённай газеце «Вольная праца» ён пісаў:

**Ёсць рэчка такая,**
**Лучосай завецца,**
**Над рэчкаю сад наш**
**і дом;**
**там спелыя вішні**
**ружовым суквеццем**
**схіляюцца ўніз**
**над вадой...**

# «СЯГОННЯ Я НАДОЎГА АД'ЯЖДЖАЮ...»

## НЕВЯДОМАЕ ПРА ТОДАРА ЛЕБЯДУ

Размова ідзе пра Віцебск, дзе ў 1914 годзе нарадзіўся Тодар Лебяда /Пётра Фёдаравіч Шырокаў/. Рана застаўся без бацькі, таму выхаваннем сына займалася маці, Настасся Карпаўна Паедава.

З дзяцінства Пётра Шырокаў марыў стаць настаўнікам, таму і паступіў у 1933 годзе ў Мінскі педагагічны інстытут. У гэты час ён ужо спрабуе пісаць нарысы і вершы, якія змяшчае ў газетах «Віцебскі рабочы», «Савецкая Беларусь» і «Піянер Беларусі». У інстытуце ён знаёміцца і сябруе з Уладзімірам Клішэвічам, Масеем Сяднёвым, Якубам Ермаловічам, Міколам Гваздовым і іншымі пачынаючымі тады аўтарамі. Тут ён знаёміцца і з мінчанкай Басяй Ціпінай. Пра тое, як яна прыласкала беларускага рахманага хлопца, добра напісаў у сваім рамане «Раман Корзюк» /Нью-Йорк—Мюнхен, 1985 г./ Масей Сяднёў. Пётра Шырокаў у рамане выступае пад псеўданімам Пятрок Шырокаў, а Бася Ціпіна — пад прозвішчам Цыпіна. У 1936 годзе, хоць шлюб і не быў зарэгістраваны, Бася Ціпіна нарадзіла ад Шырокава дачку Алесю, якую ў пасведчанні аб нараджэнні так і запісала: Шырокава Аляксандра Пятроўна. Але ў гэты час бацькі Алесі, на жаль, побач ужо не было. Яго і яшчэ адзінаццаць студэнтаў інстытута абвінавацілі ў «буржуазным нацыяналізме». Пётра Шырокаў быў асуджаны на пяць гадоў, Я. Ермаловіч і М. Сяднёў на шэсць і г. д. Шырокаву ўдалося ўладкавацца кавалём у Новасібірскай вобласці, а некаторых яго сяброў закінулі ажно на Камчатку.

У 1940 годзе па хадайніцтве ўсё той жа Б. Ціпінай П. Шырокава і яго сяброў зноў прывозяць у Мінск для «перагляду справы». З Мінска адпраўляюць у Чэрвень, дзе і застаў яго пачатак вайны.

Нямецкія самалёты ўжо бамбілі горад, таму вайскоўцам было не да зняволеных. Так Тодар Лебяда апынуўся на волі. Гэты момант згаданы Масей Сяднёў занатаваў у сваёй паэме «Мая вайна» /зборнік «Патушаныя зоры», Нью-Йорк—Мюнхен, 1975 г./:

**... Я падаў і плакаў...**
**— Ты што? —**
**пачуўся мне голас ласкавы**
**і нехта падаў паліто: —**
**Накрыйся і ляжы!**
**Апрытомнеў**
**і вочы падняў я — на крок**
**у ранішніх сонца промнях**
**стаяў ад мяне Пятрок.**
**Той самы Пятрок, з якім мы**
**вучыліся тры гады.**
**А потым экзамен ў Нарыме**
**трымалі за курс бяды.**
**Прасоўваліся па балотах**
**армейцы ваўчынай гайнёй.**
**І лёталі самалёты**
**чужыя над нашай зямлёй.**
**Быў горад далёка за намі,**
**ад сажы і дыму густы.**
**Ішлі з Петраком мы жытамі,**
**не ведаючы куды.**
**І ўспомнілі мы, што болей**
**канвою над намі няма,**
**што сапраўды на волю**
**нас выпусціла турма.**
**І хоць мы турму гнаілі,**
**ды после пяці гадоў**
**здавалася нам, наіўным,**
**мы сталі студэнтамі зноў.**
**Шумлівыя, светлыя залы,**
**прыемны студэнтак напеў.**
**Мы лепш, чым другія, спазналі**
**«Кароткі курс ВКП».**
**Прайшлі мы са словам «нацдэмы»**
**па мёрзлай зямлі і вадзе.**
**Не ведалі нашыя, дзе мы,**
**і думалі: можа, нідзе.**
**Ісці не маглі мы далей,**
**супольна — рука ў руку:**
**мяне ў адным чакалі,**
**яго — у другім баку.**
**Заплакалі мы на ростань,**
**зморaныя ад хады,**
**і развіталіся проста,**
**як нашы калісьці дзяды.**
**У памяці дзень той не выцвіў,**
**на музыку просіцца слоў...**
**Мой сябра пайшоў на Віцебск,**
**а я — на Магілёў...**

П. Шырокаў дабраўся да Віцебска, дзе жыла яго маці. Тут ён шмат пісаў — вершы, апавяданні і драматычныя творы. Тут была закончана і п'еса «Загубленае жыццё». Дарэчы, у 1943 годзе рэжысёр



Вячаслаў Селях-Качанскі ажыццявіў пастаноўку гэтай п'есы на сцэне Мінскага гарадскога тэатра. Пазней, на эміграцыі ў Германіі, разам з кампазітарам Міколам Равенскім, ён арганізуе эстрадную групу «Жыве Беларусь», ставіць на сцэне «Загубленае жыццё» Тодара Лебяды. Вяртаецца да яе В. Селях-Качанскі і жывучы ў г. Элізабет /ЗША/. А ў 1952 годзе ў Канадзе п'еса «Загубленае жыццё» выходзіць з друку асобным выданнем.

У акупаваным немцамі Віцебску П. Шырокаў рэгіструе шлюб з артысткай Верай Жгут. Ён падтрымлівае сувязі з беларускімі акцёрамі і пісьменнікамі, якія апынуліся пад акупацыяй, часта наведвае Мінск. У 1944 годзе выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Песні выгнання».

У час адступлення немцаў з Беларусі Тодар Лебяда рашыў ехаць на Захад. Ён добра ведаў, што яго зноў чакае турма, зноў чакаюць рэпрэсіі. Таму спачатку быў Берлін, а пасля Прусія, дзе ён разам з жонкаю ўладкоўваецца на працу да аднаго баўэра. Разам з імі быў і Уладзімір Клішэвіч. Як жылося і працавалася ім там, сведчыць адзін ліст Тодара Лебяды да Масея Сяднёва, які збярогся да сённяшняга дня:

*«Здароў, Масей! Сёння атрымалі ад цябе першы ліст і былі бясконца рады. Малайчына, што не застаўся ў Беластоку! Аб нас ты ўжо напэўна тое-сёе чуў. Жывем з Валодзькам у аднаго баўэра, працуем у яго: косім, чысцім гной і г. далей, за што маем ад яго кавалак хлеба. Калі казаць аб нашым жыцці, дык пра ўсё можна выказаць адным словам — сытыя. Больш нічога. Ніякай духоўнай стравы. Рана ўстаем, ідзем на працу, прыходзім з працы — вячэраем і кладземся спаць, каб заўтра ісці зноў на працу. Гэтаксама жыве і Віцьбіч. Ён толькі за чатыры вярсты ад нас. Пісалі мы некалькі лістоў у Берлін, але адказу не атрымалі, чым яшчэ раз пацвярджае думку аб нашых беларусах: калі сам сыты, дык аб галодных не спагадае. Я гэта адчуў яшчэ на Бацькаўшчыне, а цяпер гэта лішні раз толькі пацвярджаецца. Мы, беларусы, такімі адносінамі /панскімі/ да людзей дабіліся таго, што нам ужо мала хто й верыць, аб чым бы мы ні казалі.*

*Вось мы сёння радуемся з Валодзькам, што ты зараз у Берліне. Ты — не такі, як нашыя астатнія беларусы. Будзем спадзявацца, што ты дзе-небудзь, калі-небудзь і закінеш там за нас слова. Галоўнае — гэта каб ты не забываўся пра нас і пісаў бы нам лісты, дасылаў газеты /як мага акуратней/ і па магчымасці іншую літаратуру, бо мы зараз анічога не маем. Атрымалі адзін нумар «Раніцы» ад сп. Караленкі, за што вельмі шчыра яму ўдзячны.*

*Учора я пахаваў сваё дзіця. Пасля ўсяго вельмі дрэнны настрой. Мы з Валодзькам разабралі наш ложак і зрабілі майму сыну маленькую дамавіну. Цвікоў нацягалі са сцен і з старых дошак.*

*Яшчэ раз просім цябе — пішы нам. Мы будзем пісаць як найчасцей. Бывай здароў! Твае Пятрок і Валодзя Клішэвіч.*

*Калі ты ўведаеш аб нашых паэтах Л. Случчаніну, Золаку, Алесю Салаўю, або ўведаеш, дзе зараз П. Манькоў, не забывай паведаміць. Устрой, Масей, для мяне, калі ласка, у «Раніцу» аб'яву: Шукаю дачку Аляксандру Шырокаву — 8 год і маці Настассю Паедаву, якія апошнія часы знаходзіліся ў мястэчку Лентварова Віленскай акругі. Паведаміць праз газету «Раніца» — Тодару Лебядзе. Аб'яву гэтую перарабляй як хочаш. Я падаў толькі сэнс. Тодар Лебяда».*

Цяжка сказаць, ці была гэтая аб'яўка ў «Раніцы», а вось невялікая рэцэнзія М. Сяднёва на зборнік «Песні выгнання» была ў свой час надрукавана ў «Новай /беластоцкай/ дарозе».

Пасля Прусіі сляды П. Шырокава на пэўны час губляюцца, хадзілі толькі чуткі, што ён, з'агітаваны савецкім афіцэрам, вярнуўся да Басі Ціпінай і да сваёй дачкі Алесі. Але гэтае вяртанне шчасця яму не прынесла. У маі 1947 года Ваенным Трыбуналам войск МУС Мінскай вобласці па арт. 63-1 УК БССР Шырокаў Пётр Фёдаравіч зноў быў асуджаны, гэтым разам на 25 гадоў.

**Алеся любая,**
**Дачушка дарагая,**
**Што так боязна**
**Глядзіш ты на мяне?**
**Сягоння я**
**Надоўга ад'яжджаю,**
**А там, магчыма, стрэнемся...**
**Мо' не...**
**Я ручкі кволыя**
**Бяру сваёй рукою...**
**Сягоння я... Ты плачаш?**
**Перастань!..**
**Пайду па вуліцы**
**Пад моцным пад канвоем,**
**Твой бацька,**
**Любы твой,**
**А сёння — арыштант...**
**Я еду ў край**
**Такі, што ты й не сніла,**
**Дзе многа, многа**
**Страшных мерцвякоў,**
**Дзе кожны дзень**
**Капаюцца магілы**
**Дзеля замучаных,**
**Зняволеных бацькоў...**

У якіх раёнах Сібіры адбываў свой тэрмін Тодар Лебяда, невядома. Вядома толькі, што 30 жніўня 1956 года ён быў вызвалены з-пад варты, але ў Беларусь вяртацца яму не дазволілі, прыйшлося ўладкавацца цырульнікам у адным з пасялковых дамоў афіцэраў, працаваць на іншых работах. І толькі ў 1960 годзе ён прыязджае ў Слонім. Тут адразу стаў працаваць рэзчыкам паперы на кардоннай фабрыцы «Альбярцін». А ў вольны час шмат пісаў. Сёе-тое друкаваў у слонімскай раённай газеце «Вольная праца». Але пра свой псеўданім П. Шырокаў нікому не казаў, а таксама пра выдадзеную ў вайну кнігу вершаў. Быў заўсёды маўклівы. Вельмі хацеў на фабрыцы стварыць драматычны гурток, каб ставіць свае п'есы. Дарэчы, у Слоніме ён напісаў п'есу ў трох актах «У нас, на Гродзеншчыне», прысвечаную вясковаму жыццю. Было напісана і некалькі аднаактовых п'есак. Адна з іх, «Людзі ва Хрысце», была надрукавана ў «Вольнай працы».

Пісаў таксама апавяданні. Асабліва яму ўдаваліся гумарыстычныя творы і абразкі на маральна-этычныя тэмы.

Жывучы ў Слоніме, П. Шырокаў шукаў сваіх сяброў, у першую чаргу У. Клішэвіча. Былы рэдактар беластоцкага тыднёвіка «Ніва» Г. Валкавыцкі захаваў і перадаў мне нядаўна пісьмо П. Шырокава ў «Ніву», дзе ён, у прыватнасці, пісаў: *«Паважаная рэдакцыя! Праглядаючы архіў Вашай газеты за мінулыя гады, я знайшоў у ёй надрукаваныя вершы майго блізкага сябра па інстытуце Уладзіміра Клішэвіча, якога я лічыў загінуўшым у часы Другой Сусветнай вайны. А быў бы я Вам вельмі ўдзячны, калі б Вы паведамілі мне аб яго цяперашнім месцажыхарстве, альбо даслалі яму мой хатні адрас: БССР, Гродзенская вобл., г. Слонім, пас. Альбярцін, вул. 17 верасня, д. 3. З нецярпеннем чакаю Вашага адказу. З пашанай — Шырокаў Пётр Фёдаравіч. 2.V.61 г.».*

Просьба гэтая была рэдакцыяй выканана. У. Клішэвіч і П. Шырокаў знайшлі адзін аднаго, яны перапісваліся, у адным з пісьмаў да Клішэвіча Шырокаў хваліўся, што стаў дзедам...

1 студзеня 1962 года П. Шырокаў звольніўся з работы і пакінуў Слонім. Як склалася яго далейшае жыццё — невядома. Ці жыве ён, ці не — таксама цяжка сказаць. Яго сябра па студэнцкіх гадах Масей Сяднёў напісаў мне: *«Пятрок мо недзе жыве яшчэ, шукайце яго далейшых слядоў, калі ласка. Буду Вам моцна ўдзячны, калі Вы адшукаеце нешта новае пра Тодара Лебяду і паведаміце мне. Шырокаў — чалавек зацяты і ўпарты — будзе маўчаць, не заяўляць пра сябе. Але Пятрок Шырокаў добры, залаты чалавек, таварыскі і паслядоўны...».*

Хочацца верыць, што гэтая загадка будзе разгадана, што яшчэ адно невядомае імя вернецца ў беларускую літаратуру.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*г. Слонім*


**ЛіМ**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:
Х.ДУНЕЦ (1932-35)
І.ГУРСКІ (1935-41)
А.КУЛЯШОЎ (1945-46)
М.ГОРЦАЎ (1947-49)
П.КАВАЛЁЎ (1949-50)
В.ВІТКА (1951-57)
М.ТКАЧОЎ (1957-59)
Я.ШАРАХОЎСКІ (1959-61)
Н.ПАШКЕВІЧ (1961-69)
Л.ПРОКША (1969-72)
Х.ЖЫЧКА (1972-76)
А.АСІПЕНКА (1976-80)
А.ЖУК (1980-86)
А.ВЯРЦІНСКІ (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000.
Нумар падпісаны 30.09.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12